—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
5
ЛЮТАГА
1993 г.
№ 6 (3676)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ
3 рублі





# НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА

### Леаніду ШЧАМЯЛЁВУ — 70 год

Мастак можа лічыць свой лёс шчаслівым нават у тым выпадку, калі хоць адзін ягоны твор стаў здабыткам нацыянальнай культуры. У Леаніда Шчамялёва такіх твораў нямала. Ён стаў вядомым у сярэдзіне 60-х гадоў і дагэтуль застаецца адным з лідэраў беларускага жывапісу. З яго імем звязана фармаванне вельмі плённага напрамку ў нашым выяўленчым мастацтве; я б нават сказаў, уласна-беларускага стылю ў жывапісе. Л. Шчамялёў вызначыўся сваім колерам, сваёй пластыкай, уласцівымі толькі яму кампазіцыйнымі прыёмамі. На той час (сярэдзіна 60-х — пачатак 70-х гадоў) гэта было «авангардам». Маладзейшыя, адкрываючы сёння для сябе свет, можа, нават і не ўяўляюць, што ідуць па шляху, пракладзеным мастакамі кшталту Леаніда Шчамялёва.

Сёння мастаку — 70 год, але па творах гэтага не скажаш. З яго аблiччам і характарам не стасуецца слова «ветэран». Гледзячы на палотны Леаніда Дзмітрыевіча, думаеш не аб вайне, праз якую прайшоў мастак у маладосці, не пра цяжкасці станаўлення таленту ў краіне, дзе культура — гэта апошні радок у дзяржаўным бюджэце,— але аб тым, што «напісанае застаецца». Напісанае таленавітаю рукою.

В. БОГУШ.

ЛАЎРЭАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ГАЛІНКА МКНЕЦЦА ДА СВЯТЛА...

Адзін вельмі вядомы чалавек параўнаў музычную культуру з дрэвам, карані якога глыбока ў зямлі, а крона цягнецца да неба. Другі, таксама вядомы, чалавек назваў творчую індывідуальнасць Галіны Гарэлавай «изящной ветвью» беларускай музыкі.

Далікатная, тонкая галіна, якую жывяць сокі музычнай глебы, традыцый, літаратурная класіка дый кожны добры верш — ці то знойдзены ён у перакладах замежнай паэзіі, ці то прачытаны ў свежай лімаўскай падборцы...

А ці варта пералічваць, што напісала кампазітар Галіна Гарэлава? Вы ж, калі чулі хоць аднойчы, успомніце «Дзявочыя песні» на вершы М. Багдановіча і вакальны цыкл на вершы Е. Лось, Л. Геніюш, Н. Тулупавай; «Бандароўну» і Скрыпічны канцэрт, і «Хвалу беднякам», і «Тысячу гадоў надзеі»... Вы толькі не ўспомніце песень «на тэму дня» — бо яна іх не пісала, хоць мае густ на добрыя песні, аддае належнае паўнавартасным творам сваіх калег у гэтым жанры. Яе наканаванасць, мо нават Кон — вытанчаная камерная музыка, загадкавая, капрызлівая, шляхетная, вартасці якой бывае, выяўляюцца-ярчэюць з гадамі, насуперак грамадскай модзе ды напластаванням часу.

Насуперак «надзённым павевам» нарадзілася-паўстала і кантата «У год сусветнага пажару» на такія розныя, але знітаваныя — праз музыку — пацыфісцкай ідэяй кампазітара, вершы: В. Брусава, Л. Арагона, П. Антакольскага, Г. Апалінэра, А. Таркоўскага, С. Кірсанава, А. Рэмбо. Дарэмным аказаўся скепсіс тых, хто ніколі не чуў кантату дый не збіраўся яе паслухаць, аднак жа быў перакананы, што «У год сусветнага пажару»— даніна традыцыйнай для беларускага мастацтва, ды ўжо «не актуальнай» тэме мінулай вайны. Абноўлены Камітэт па Дзяржаўных прэміях, праявіўшы мудрасць, шырыню і культуру сапраўды еўрапейскага мыслення, адзначыў гэты твор. «Твор гэты,— як пісаў старшыня Камітэта Н. Гілевіч, аглядаючы прэміяваныя працы дзеячаў нашага мастацтва і літаратуры,—адметная з'ява ў сучаснай беларускай вакальна-інструментальнай музыцы. Спалучэнне трагедыйнага гучання са светлым лірызмам, свежасць музычнай мовы, высокі прафесіяналізм надоўга, трэба думаць, забяспечаць таленавітаму твору поспех».

Пэўна ж, так. Бо кантата «У год сусветнага пажару» ўжо замацавалася ў рэпертуары канцэртных праграм радыё. Асабліва папулярны яе фрагмент — гэткі эмацыянальны, перапоўнены прагаю жыцця, парыжскі вальс у пачуццёвым і драматычным выкананні В. Цішынай і аркестра...

А ў тыя снежаньскія дні Галіну віншавалі не толькі з вышэйшай афіцыйнай адзнакай яе мастацтва: на Фестывалі но-



вай беларускай музыкі з добрым розгаласам прайшла прэм'ера не зусім звычайнага ў коле яе творчых інтарэсаў Канцэрта для балалайкі ды сімфанічнага аркестра. У жанры інструментальнага канцэрта Г. Гарэлава, дарэчы, працу не перапыняе: у хуткім часе мы пачуем такі буйны твор, напісаны спецыяльна для таленавітага хлопчыка, навучэнца Музычнага ліцэя Андрэя Кавалінскага.

Наогул, яна піша многа і плённа: што б ні з'явілася на нотным аркушы з-пад яе рукі — гэта заўсёды цікава ўжо таму, што ёсць душа, ёсць прафесійная культура і адчуванне традыцыі.

Крыху разгублена прымае Галіна віншаванні, нават ад сяброў: уся — у думках пра несканчоныя праблемы, не так творчыя, як псіхалагічныя. Стасункі са студэнтамі, якім хочацца даць нешта большае, чым толькі прафесію. «Хатні воз», клопат пра сына, які так хутка расце і сталее, што бабулі з ім ужо цяжка. Дзе той бестурботны час, калі можна было «схавацца ў сабе», як раней, заглыбіцца ў чытанне паэзіі і штосьці знайсці ўрэшце для душы, а значыць і для новай задумы... Найбольш тонкія адчуванні, лічыць Галіна, дае свет музыкі, звязанай са словам; шкада, што далёка не кожнае прыгожае, высокае, напраўду паэтычнае слова можа злучыцца з музыкаю ў гарманічны саюз. Трэба шукаць, шукаць... І, спрачаючыся з прозай жыцця, яна ўсё ж выбірае часінку, каб пачытаць прозу М. Цвятаевай. Каб прыгадаць вершы Е. Лось. Каб скласці літаратурна-музычную кампазіцыю для радыёпраграмы «Тэра гармонія», густоўна пераклаўшы ўрыўкі з Ч. Дзікенса і спалучыўшы калядны тэкст з творамі Баха, Сібеліуса, Чайкоўскага.

Пра сваю ж музыку, якая пішацца, Галіна не любіць гаманіць: адразу агортваюць сумненні, і яна прымхліва змаўкае. Натуральны стан кожнай творчай душы...

Крона грунтоўна ўкаранёнага дрэва хоча дацягнуцца да неба, кожнай галінкай мкне ўвышыню, ды чысціні й святлыні. Галінка ж заўжды цягнецца да святла, калі сама яна — жывая і жыццядайная.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота У. ПАНАДЫ.

**Алесь ПІСАРЫК**



## БУДЗЬ ЖА ЧУЙНЫМ, БЕЛАРУС!

●

За ноч выданніца-завея
Убрала вэлюмам сады,
І снегірамі ружавелі
Крыштальных туфлікаў сляды.

Што ў ноч такую не прысніцца!
Ты слова цёплае скажы
Услед завеі
і сініцы,
Што ў дзюбцы жарыну дзяржыць.

І не спяшай хмялець пунсовай,
Гарачай гронкаю калін.
Так варажбітка, падвянцова
Снягі Марозка пасцяліў,

Што і развітвацца нам горка.
Вярнуцца з казкі не спяшай.
Вітай зіму!
І помні гронку,
Якой сагрэлася душа.

## Лёс

Бацьку Уладзіміру ЯФІМАВІЧУ

Мужыкова галава
Не такая й пусташ.
Як не будзеш працаваць —
Дух на ладан пусціш!

Сонца вочы не пратрэ,
Не разбудзіць птушку,
Гаспадар з балотца прэ
Сена валакушу.

То — касіць яму пара,
То — разорваць граньку.
Мужычок, як той вятрак,
Круціцца ад ранку.

Аб сякеру і пілу
Напрацуе рукі.
Будзіць жонку, як пчалу,
Словамі прынукі.

Што намеціў — усяго
Аднаму не ўлегчы,
Хоць і дзень даўгі,
Як год,
І пры сіле плечы.

А рыбацкае чуццё!
А на ўзлеску рыжык!
Сталася б спіна праўцом,
Каб ляжаў, як сліжань.

Жураўліная зара
Сны яго прывеціць,
Каб круціўся, як вятрак,
Пад жыццёвы вецер.

●

Атрутлівыя часу соты.
Ці не таму шугае зло
Ад сэрцаў,
Як аблокаў слотных!
Любові — быццам не было.

Мы за дабро дабром не плацім.
У непрабудным сне душа.
Дабро мяняем на багацце,
Стаптана годнасці мяжа.

Сваё,
Чужое,
Ці падачка —
Усё змяшалася ў адно.
І доля наша,
як жабрачка,
П'е каламутнае віно.

●

Беларусь,
Цябе за краты,
За калючыя драты,
Зашчаміць хацелі каты
З роду ірадаў праклятых,
Каб навек аслепла ты.

Ці гібець асілкам-дзецям,
Ці Свабоду сцерагчы!
Крута гнеў людскі прадзецца.
А куды іначай дзецца!
Вокны ганьбяць крумкачы.

Меч каваў дзядуля хвацка.
Не ступілася лязо
Аб ліхі жупан казацкі.
Адгукнуўся час вар'яцкі
На мячы чужой слязой.

Цені ў вокнах.
Вокал — цені.
Будзь жа чуйным, беларус!
Зграі здрады наляцелі
На твой дом.
Зяўнеш — і цела
Кіпцюрамі раздзяруць.

Плача маці.
Донька плача.
Бацька ледзьве не жабрак.
Глянь, што вочы вокал бачаць,
Глянь, як людзі скрозь батрачаць.
Стань мудрэй правадыра.

Скінь ланцуг.
Ты — не сабака.
Ты — свабодны чалавек.
Перастане донька плакаць.
А крумкач крывава бамкаць.
Сонца ў вокнах ажыве.

Шчэ не ўсіх нас ачмурыла
Цемра лютасці і зла.
Хай душа забудзе крыўды
І адчуе сілы крылаў
У Хрыстовым дні святла.

●

Так спрадвеку ішло,
Што без Бога —
Не да сэрца,
І не да парога...
Скуль праходзіла тая мяжа!
Ненавідзелі тых, без крыжа.
Без сяброў і паплечнікаў жыў
Той, хто д'яблу душу залажыў.
Ці раскайваўся ён, апантаны,
Як па сцежках блудзіў пратаптаных!
Веку скон.
Час няшчасны настаў:
Чорт пазбавіўся рог і хваста.
Ці пазнаеце д'ябла ў бяседзе!
Ён да вас на плячах вашых едзе.
Чорт лісліва кабету падмане,
Бо душу чалавечую мае.
Застае яго муж.
Крыўдна трохі,
Бо намацвае ўласныя рогі.
Робіць выгляд,
што не прыкмячае
Ён таго,
хто плаціў за маўчанне.

## Родныя гнёзды

Стрыечным братам,
якія жывуць у ЗША

Карэнне роду нашага пасеклі
Віхуры веку.
Дух не змялі!
Вы на чужыне не зазналі бедаў
Такіх як тут —
На здаўленай зямлі.

Захопніцкім, каваным крута ботам
Растоптвалі святыні на вачах.
Паскудзілі душу хлуснёю...
Потым —
Гімн з пашчы крыважэрнае гучаў.

А ты, мой брат, радзіўся на чужыне,
Дзе сонца не захмарвала туга,
І бацяны анёламі кружылі
У недаспаных, казачных лугах.

Ты мовы маці не цураўся з роду.
Мяне ж —
За слова роднае пяклі
Насмешкамі,
што выйшаў я з народу,
Як вешальнік з надрэзанай пятлі.

Нам ёсць пра што пагаварыць адкрыта,
Бо мы адзінай спадчыннай крыві.
Завошта лёс такі!
Да болю крыўдна,
Што птах душы тваёй гняздзечка звіў

Не ў тым садку,
Дзе нашых душаў гнёзды,
Дзе кожная галінка — як сястра,
І веташок —
Даверлівы і ўзнёслы.
І выспелай малінаю зара.

●

У садзе снежныя шатры,
Слядоў птушыных закавычкі.
Касцёр калінавы гарыць.
І нехта скінуў рукавічкі.

Няўжо яна ў такую рань
З пярын тугіх перабярэцца
Сюды, як гордая герань,
Каб ля маёй любві сагрэцца!

Няўжо мільгнула так жыццё,
І не паўторыцца нанова:
Ні рук даверлівых зліццё,
Ні клятвы сэрца слова ў слова!

Сняжынак рой— не сівізна,
Душа цнатлівасцю варожыць.
Цяплее свет, калі вясна
Сваёй прысутнасцю трывожыць.

# ПРАЗ АКІЯН ЗАБЫЦЦЯ

## Паэзія Наталлі Арсенневай

Яе ПРЫХОД у беларускую літаратуру віталі такія карыфеі мастацкага слова і нацыянальнага адраджэння, як Максім Гарэцкі і Антон Луцкевіч, адзін з першых рэцэнзентаў купалаўскай «Жалейкі» Уладзімір Самойла. Ужо адна толькі гэтая акалічнасць зрабіла б гонар любому паэту. Наталля Арсеннева прыйшла ў беларускую паэзію лёгка і прыгожа, як прыходзіць сапраўдны талент, калі ён малады і цешыцца самой магчымасцю тварыць, не ўсведамляючы значнасці і каштоўнай унікальнасці свайго творчага дару. Працавалася плённа і радасна, бо іначай ужо немагчыма было жыць. Вось толькі лёс абышоўся з гэтым талентам нялітасціва.

Максім Гарэцкі ўбачыў у маладой паэтэсе, тады яшчэ навучэнцы Віленскай беларускай гімназіі, пераемніцу слыннай Канстанцыі Буйло. Ужо ў першых беларускіх вершах Арсенневай ён заўважыў яркі талент і блаславіў яго. З успамінаў паэтэсы вядомы (у пераказе Антона Адамовіча) урачысты момант першага абнародавання яе твораў і першага прызнання: «...увечары на вучнёўскай вечарыне ... на сцэну выйшаў Гарэцкі і, звярнуўшыся да сабраных, абвесціў усёй залі, што з'явілася новая Канстанцыя Буйла, ды зачытаў урачыста дадзеныя яму паэткаю раніцаю вершы». Пазней, вылучаючы імя Арсенневай сярод заходнебеларускіх паэтаў, Гарэцкі пісаў, што вершы яе «захопліваюць шчырасцю пачуцця, далікатнасцю тону і нейкаю асаблівую пяшчотнасцю вобразаў і слоў».

Артыкул пра зборнік вершаў паэтэсы «Пад сінім небам» (Вільня, 1927) Антон Навіна (Луцкевіч) змясціў у сваёй кнізе «Адбітае жыццё» (Вільня, 1929) побач з даследаваннямі творчасці Я. Купалы, М. Багдановіча. І па сённяшні дзень гэты невялічкі артыкул застаецца найбольш глыбокай літаратуразнаўчай працай, прысвечанай творчасці Арсенневай, хоць некаторыя развагі крытыка здаюцца спрэчнымі.

Антон Навіна небеспадстаўна падкрэслівае роднасць паэтычных талентаў Наталлі Арсенневай і Максіма Багдановіча, што абумоўлена іх «шуканнем красы, хараства ўва ўсіх праявах нашага жыцця, а перадусім—у прыродзе».

Сапраўды, па прыродзе свайго таленту, а таксама ўмовах яго развіцця на самым пачатку творчасці паэтэса найбольш блізкая да Багдановіча. Нарадзіўшыся ў сям'і рускіх інтэлігентаў з багатымі культурнымі традыцыямі (з роду Арсенневых па мацярынскай лініі паходзіў М. Лермантаў), Арсеннева, як і Багдановіч, прайшла свой шлях да беларускасці і беларускага слова. Сімвалічна, што пачаткам гэтага шляху быў Яраслаўль, дзе жыў Багдановіч і дзе ў 1915—1919 гадах апынуліся ў эвакуацыі Арсеневы (менавіта там паэтэса пачала пісаць, праўда, яшчэ далёкая да беларускага слова). Вызначальную ролю ў фармаванні Арсенневай як беларускай паэтэсы адыграла беларускае грамадска-культурнае асяроддзе ў Вільні ў пачатку 20-х гадоў, вучоба ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе працавалі выдатныя дзеячы беларускага адраджэння М. Гарэцкі, А. Луцкевіч, Б. Тарашкевіч, А. Смоліч. «Неставала блізу ўсяго,— успамінала пазней Арсеннева, —шмат хто з вучняў і з настаўнікаў галадаваў, не было нястачы толькі ў адным—у запале, у гарачых ахвярных сэрцах, у людзях, якія, дарма што голад і холад, аддана вялі сваю працу з аднэю думкай — зрабіць шчаслівай сваю Бацькаўшчыну—Беларусь». Відавочна, пад уплывам гэтага асяроддзя і ўзніклі пэўныя літаратурныя сімпатыі Арсенневай.

У паэтычным зборніку «Пад сінім небам», а таксама ў вершах 30-х гадоў, якія меліся ўвайсці ў кнігу «Жоўтая восень», можна заўважыць алюзіі паэтычных вобразаў Багдановіча, найперш у вершах пейзажнай лірыкі «Снег падаў» («пасам зубчастым сінеўся бор»), «Ціха плыў месяц» («Ціха плыў месяц між хмараў празрыстых, зоры гублялі халодныя слёзы») і іншых. Аднак у творах паэтэсы няма прамога і вучнёўскага пераймання Багдановіча. Паэзію Арсенневай збліжае з багдановічаўскай характар лірызму, арганічная злітнасць малюнкавасці і настраёвасці. «Як і Багдановіч, яна з малюнкамі прыроды заўсёды злучае той ці іншы глыбейшы настрой, тое ці іншае асабістае перажыванне, рэфлексію, думку-разважанне» (А. Навіна). Найбольшую сугучнасць вобразна-інтанацыйнаму ладу пейзажнай лірыкі Багдановіча выяўляюць шматлікія вершы Арсенневай з малюнкамі вячэрняй пары, вершы-накцюрны («У небе палаюць чырвоныя хмары...», «Шэпты ночы», «Вячорны абразок», «Вячорнаю парою», «Незгаданае», «Асенні вечар»). У іх тая ж мяккасць, задушэўнасць інтанацый, гармонія прыроднага і чалавечага, пластычная выразнасць вобраза і чысціня колеравай гамы, што і ў вершах Багдановіча «Добрай ночы, зара-зараніца!», «Вечар на захадзе ў попеле тушыць...», «Ціха па мяккай траве...».

**Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны,**
**чыстым золатам густа залоціць рабіны,—**
**і здаецца паветра густым і зялёным,**
**бы вада у вазёрах, зялёных ад ціны.**

**Гаснуць носы на вежах гатыцкіх касцёлаў,**
**запаляючы шыбы дзіўнымі агнямі.**
**Зоры—**
**вочы малых засмучоных анёлаў—**
**мігацяць у хмурынах, парваных над намі.**

(«Вечар неба хварбуе ў гарачыя тоны...», 1923; цытую па рэдакцыі зборніка «Між берагамі», дзе апублікаваны пад назвай «Вячорнаю парою»).

Вячэрнія пейзажы і накцюрны Арсенневай поўныя багатых і складаных пачуццяў, што выяўляе чалавечая душа, якая адчувае сябе часткай вялікага таямнічага цэлага — Сусвету.

**Дзень стуліў залатыя расніцы,**
**супачыў недзе ў попеле хмар.**
**Квола зорная рунь каласіцца,**
**квола месяца ззяе пажар.**
**Невымоўна глыбокая ціша**
**тчэ трывожны, дзіўны супакой.**
**Ноч і надзіць,**
**І кліча**
**й калыша,**
**ноч гуляе з душою людской.**

(«Незгаданае», 1934).

І «найгоршае пекла роспачы», і «дзіўны супакой»—безліч адценняў і нюансаў перажытага суладна з вечна зменлівай жывой прыродай набываюць у вершах Арсенневай пластычна дасканалую славесна-вобразную форму. Сваім улюбёным арсеналам мастацкіх сродкаў паэтэса карыстаецца па-майстэрску смела і нязмушана, унікаючы прыкрых паўтораў самой жа сябе. Толькі на першы погляд пры чытанні ўсёй яе паэзіі «агулам» яна здаецца крыху аднастайнай у бясконцым вяртанні да звыклых матываў і вобразаў, а на самай справе заўсёды новая, як у гэтай паэзіі месячнага ззяння: «Нешта ў сэрцы расце... (Панад срэбрам аблокаў моўчкі ўзняў маладзік свой заплаканы твар)»; «Месяц сцюдзёны і чысты выплыў у небе ліловым». Пасля, ужо ў ваенным Мінску, у сорак першым і сорак другім, гэты начны пейзаж паўстане ў трагічнай красе: «Бляшаной конаўкай, прыпаўшы да крыніцы, сцюдзёную ваду п'е прагна маладзік»; «Выпаўз на дах маладзік, выцягнуў меч... і вартуе». Яшчэ пазней, у нявольнай волі эміграцыі, прымроіцца ці не з сярэднявечнай Пагоні беларускай: «Закуты ў срэбра зброі рыцар — вартуе места й нас да дня» («Месяц»). Так цэлы лёс чалавечы адбіваецца ў святле месяца пад гэтым вечным небам.

Сваю рэцэнзію на першую кнігу Арсенневай М. Чэмер (Уладзімір Самойла) назваў «Верная дачка Сонца і «Шчырай Зямелькі», вылучаючы ў творчасці паэтэсы найперш жыццесцвярджальныя, нібы зараджаныя энергіяй сонца настроі. Так, безумоўна, «сонечнасць» і нябесна-сіняя яснасць уласцівы светаадчуванню маладой паэтэсы, але перадусім яе паэзія не сонечна-купалаўская, а зорная, астральная, як у Багдановіча. Да Багдановіча ўзыходзяць таксама урбаністычныя матывы і адпаведны вобразны каларыт вершаў Арсенневай «Места», «Месячнай ночай», «Вечар у Вільні». Не шмат было ў нашай паэзіі такой вобразнай экспрэсіі і такой паэтычнасці побытавай прозы горада, сцверджанай як бы насуперак першаснаму імпульсу аспрэчыць будзённую яву жыцця марай-парываннем да страчанай гармоніі.

**Над намі — бетонаў штодзённасць**
**і шэрасць панурая сцен,**
**над намі нябёсаў зялёнасць**
**парэзалі сеткі антэн,**
**мы слухаем воўчае песні**
**сірэнаў і гоману крам,**
**дзе скрозь запаляецца й чэзне**
**здзічэлая чырвань рэклам.**
**. . . . . . . . . . .**
**бяжым... і у смазе пякучай,**
**што гоніць цікаўных нас жыць,**
**не бачым, што ніткай бліскучай**
**вясна у паветры дрыжыць,**
**не бачым, што гнуткія лозы**
**ўжо срэбны размотваюць пух,**
**што дзесь, па-за нашаю прозай,—**
**праўдзівая радасць і рух!**

(«Места», 1935).

І адначасова паэтэса займалася апрацоўкай фальклорных матываў (яе паэтычны цыкл «Зачараваны кут» працягвае традыцыі багдановічаўскай міфатворчасці ў цыкле «У зачараваным царстве»). Аднак вершы і балады Арсенневай, напісаныя на фальклорна-міфалагічнай аснове, як і ўся яе паэтычная творчасць, — гэта не наследаванне ўжо вядомых літаратурных апрацовак фальклору, а вынік жывога, эмацыянальна-непасрэднага кантакту з беларускім Космасам, з фалькларызаванай свядомасцю народа, у якой натуральна ўжываліся і суіснавалі рэальныя з'явы прыроды і фантастычны, і рэальны свет лесуноў, балотніц, лебядзінага цара. Маладая паэтэса надзіва натуральна і па-свояцку вольна абжывае гэты міфалагізаваны свет, нібыта сама прыняла яго ў спадчыну па кроўнай сувязі дзядоў-прадзедаў, а не выхоўвалася ў рускай сям'і са сваім адметным ладам гарадскога жыцця і духоўнай культуры. Яна пранікае ў самую глыбінную магічна-абрадавую сутнасць вясельнай песні ці замовы, ствараючы этнаграфічна дакладны малюнак горкага вяселля дзяўчыны з «вадзяным дзедам» у «Вяселлі»: «Не баяркі нявесту ўбіралі, Яе русу касу расплятлі, — Расплятлі касу срэбны рыбкі, Расплятлі ўмела і шыбка», — ці варажбы старога млынара-чараўніка: «Абвяжуся я хмарамі сівымі, Падпаяшуся ранічнай зарою, Паабтычуся зоркамі малымі, Абмачуся чыстаю расою, Абсушуся сонейка касою...» У баладзе «Шчасце», дзе гучыць гэтая замова, адносіны паміж міфалагічным светам і жыццёвай рэальнасцю вырашаюцца найбольш нетрадыцыйна, па-філасофску шматмерна. Мы спыняемся перад тайнаю быцця: чаму прагная надзея на шчасце, нават падмацаваная магутнымі чарамі, так і не спраўджваецца ў гэтым эмпірычным існаванні?

Натурфіласофскі характар творчасці вельмі выразны якраз у ранняй лірыцы Арсенневай. Яе філасофія паўнаты і цэласнасці зямнога быцця, вабнай прыгажосці рэальнага існення літаральна разліта ў мастацкіх вобразах-малюнках, настроях, музычных тонах і паўтонах вершаў. Зрэдку паэтэса звяртаецца да медытацыі.

**Клічуць вечарам зоры ў сусвету прасторы...**
**Поўны нейкае зморы, ці прыгнобленых, хворы —**
**не ідзе чалавек...**
**. . . . . . . . . . .**
**Не, не йдзе, хоць паволі сэрцам рвецца да волі,**
**штодня нудзіцца болей—і жыве мімаволі,**
**несвядома амаль,**

**Хоць да самага раннія лёс ягоны—змаганне,**
**Сумаванне па шчасці ці па долю сяганне,**
**неакрэслены жаль...**

(«Жыццё», 1923; цытую ў рэдакцыі зборніка «Між берагамі»).

Эстэтыка Арсенневай выпрацоўвалася пад уздзеяннем розных традыцый і ўплываў, але сталася з'явай адметнай і непаўторнай. Самабытнасць, самакаштоўную эстэтычную сутнасць гэтай паэзіі падкрэслівалі і маладыя паэты Заходняй Беларусі, чыю сацыяльна-грамадзянскую ангажаванасць і ваяўнічы пафас вітала паэтэса ў вершы «Маладым паэтам»: «Вам дадзелі пакора, цярплівасць і Бог...». Тым жа 1937 годам датуецца верш Максіма Танка «Нашы шляхі» з прысвячэннем Арсенневай, які друкаваўся ў часопісе «Калоссе», як, дарэчы, і верш Міхася Машары «Наталлі Арсенневай». «З душою заварожанай спакоем і красой — Ты песню сваю кожную даеш людзям жывой», — пісаў М. Машара. «Сёння песня Твая зацвіла зачараванай казкаю», «Паясом слуцкім песня Твая мо рассцелецца», — вызначаў асаблівасць паэтычнай музы Арсенневай М. Танк, супрацьпастаўляючы ёй паэзію сацыяльнага гучання: «Наша — будзе чарнець, як чарнее рубцамі далонь». Але ў гэтым супрацьпастаўленні не было адмаўлення таленту паэтэсы або пагарды, — наадварот, тут было прызнанне адметнага мастацтва і паэтычнага майстэрства.

Дарэмна шукаў Антон Навіна ў творчасці паэтэсы праявы індывідуалістычнасці. На гэты конт Антон Адамовіч пазней заўважыў, што з індывідуалізмам змешвалася паняцце «індывідуальнасць», бо сапраўды паэзія Арсенневай была мастацкай праявай яркай індывідуальнасці асобы, яе багатага чалавечага зместу. Іншая справа, што гэтая мастацкая індывідуальнасць рэалізавала сябе па-за межамі традыцыйнай эстэтыкі, якая брала пачатак у нашаніўстве. Звяртаючы ўвагу на блізкасць мастацкага свету Арсенневай і Багдановіча, А. Навіна, аднак, беспадстаўна супрацьпастаўляе творчасць паэтэсы багдановічаўскай нібыта з-за адсутнасці ў Арсенневай «агульналюдскай» праблематыкі. Але ў змястоўным плане традыцыі Багдановіча выяўляюцца ў паэзіі Арсенневай якраз у перавазе агульначалавечых матываў. Пазбягаючы публіцыстычна падкрэсленай сацыяльнасці, паэтэса ўзбагачала беларускую паэзію псіхалагізмам лірычнага перажывання і адчуваннем красы жыцця, што культывавалася менавіта Багдановічам. Гуманістычнае гучанне паэзіі Арсенневай з новай сілай і ў новай якасці прабілася ў творчасці перыяду вайны.

Другі зборнік паэтэсы «Сягоння», які выйшаў у 1944 годзе ў Мінску (дакладней, падрыхтаваны да друку ў мінскім выдавецтве падручнікаў і літаратуры для моладзі і надрукаваны ў віленскай друкарні «Аўшра), пачынаўся трывожным роздумам над трагічнымі рэальнасцямі вайны і месцам паэта ў тым нялюдскім свеце. Ужо ў першых радках, у вершы-уверцюры «Сягоння» балюча азваліся гэтыя дысанансы жыцця.

**Сягоння**
**кажны верш хаўтурным звонам звоніць,**
**Найлепшай рыфмай ртоў галодных не затынеш...**
**Пісаць аб салаўёх, аб снежнай белі вішняў?**
**Замоўклі салаўі пад медны роў гармат,**
**А белы вішняў снег сягоння смешна лішні,**
**Сталёвы востры штык напіша вершаў шмат...**

Яшчэ неаднойчы, на працягу ўсяго раздзела, якім пачынаўся зборнік, паэтэса будзе вяртацца да вызначэння сэнсу мастака ў гэтай стыхіі руйнавання, знішчэння, смерці.

**Хто ён, паэт? Біблійны мытар,**
**Прарок натхнёны? Свету лекар?**
**Ці чалавек з душой, узрытай**
**Лязом хістанняў, скрозь нясыты**
**Жыцця і смерці, славы й здзекаў?**
**. . . . . . . . . . .**
**Не замалюеш лёсаў свету**
**Цяпер вішнёвай пеннай беляй,**
**Жыццё—зусім не акварэля,**
**І ў час вайны не да санетаў,**
**Не да мадоннаў Рафаэля.**

(«Хто ён, паэт?»).

Ізноў настойліва паўтараецца гэты матыў: «Трупоў не ўвакрасіш санетам аб вясне...».

Літаратурная праца ў выдаванай з дазволу акупацыйных уладаў «Менскай (Беларускай) газэце», даволі рэспектабельнае па тым часе жыццё, забяспечанае становішчам мужа Францішка Кушаля ў беларускіх калабарацыйных арганізацыях, у нейкім сэнсе адгароджвалі Арсенневу ад бязмернай народнай трагедыі. Праўда, у 1943 годзе не абышло яе мацярынскае гора: ад узарванай міны, прызначанай для немцаў, у гарадскім тэатры загінуў яе дваццацігадовы сын. Але пакуль што, у першыя гады ваеннай навалы на Беларусі, паэтэса з трывогай услухоўваецца ў сваё мастакоўскае «я», спрабуючы неяк прымірыць, улагодзіць непрымірымае: абражанае гуманістычнае пачуццё і абавязак мастака тварыць. Некаторым яе сучаснікам, як, напрыклад, таленавітаму маладому Алесю Салаўю ўдавалася адмежавацца ад трагічных рэальнасцяў жыцця і сапраўды пісаць санеты аб вясне, каханні, прыгажосці роднай зямлі.

Неадольная прага слова, высока развітое мастакоўскае самаўсведамленне ўрэшце перамагаюць у драме душы Арсенневай («Пясняр», «Салаўём у лазе», «Слоў не трэба шукаць»).

**Трэба быць песняром і цяпер,**
**Калі дзень наш — са смерцю братанне,**
**Калі ночы, як ранены звер,**
**У цёмных норах залізваюць раны.**

(«Пясняр»).

І нараджаецца кніга, наскрозь прасякнутая драматызмам, трывогай за лёс чалавека і народа. Яна не пазбаўлена і гераічных, змагарных матываў («Песня каліноўцаў», «Жыве Беларусь!»), і сузірання неўміручай красы прыроды («Восенскія чары», «Вечар у Вільні»), але часцей яе пачуццёвы тон уздымаецца да высокага трагічнага напалу, скрушнай горычы, горкага шкадавання, малітвы за чалавечае.

Люба ТАРАСЮК



ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ The Society of the Byelorussians of the World

# БАЦЬКАЎШЧЫНА


## СХОД ВЫРАШЫЎ ЗВЯРНУЦЦА...

Як вядома, 19—20 снежня 1992 г. у Менску прайшоў Першы сход беларусаў блізкага замежжа. Прайшоў цікава, актыўна і — даволі плённа. Звыш трохсот дэлегатаў і гасцей зацікаўлена абмяркоўвалі надзённыя пытанні адраджэння беларускай нацыі і яе культуры, умацавання дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь, яднання беларусаў замежжа між сабою і са сваёю Бацькаўшчынай. Некаторыя дэлегаты выказвалі свае думкі наконт тых ці іншых грамадскіх працэсаў, якія адбываюцца ў сённяшняй Беларусі. Зрэшты, пра многае з таго, што было на сходзе, добра вядома з перыёдыкі, з радыё- і тэлеперадач. Таму не будзем на гэтым спыняцца. Важней, думаецца, іншае: падаць тыя выніковыя дакументы, якія аднагалосна ці амаль аднагалосна былі прыняты на сходзе.

У сённяшнім выпуску «Бацькаўшчыны» і прапануецца ўвазе чытачоў шэраг дакументаў, прынятых на Першым сходзе беларусаў блізкага замежжа. Гэта Заява ўдзельнікаў сходу, а таксама асобныя Звароты — «Да народа Беларусі», «Да беларусаў свету», «Да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь», «Да парламентаў і ўрадаў рэспублік, якія раней уваходзілі ў склад СССР». Не стану каментаваць гэтыя дакументы — яны гавораць самі за сябе. І за тых, хто ўсім сэрцам прагне сапраўднай волі, дабрабыту, міру і згоды роднай Бацькаўшчыне.


Вячаслаў РАГОЙША,
нам. старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», старшыня Рэдакцыйнай камісіі сходу.


# ЗАЯВА
## ўдзельнікаў Першага сходу беларусаў блізкага замежжа

Мы, беларусы з Бацькаўшчыны, і тыя, хто мае крэўную сувязь з гэтай зямлёю, але па розных прычынах пакінулі яе ў час існавання Расійскай імперыі і СССР, ці апынуліся за межамі Беларусі ў выніку адвольнага падзелу межаў, сабраліся на гэты Сход, каб эрабіць першы крок да аб'яднання беларускай нацыі.

Мільёны беларусаў жывуць сёння ў свеце, аддаючы сваю працу, свой талент і майстэрства іншым народам і дзяржавам, якія сталі для іх другою радзімаю. Але найпершым іх клопатам з'яўляецца трывога за лёс Бацькаўшчыны. Якім ён будзе? Ці паўстане з каленяў і стане сапраўды незалежнай Рэспубліка Беларусь? Толькі самастойная Беларуская Дзяржава можа быць сапраўдным бацькоўскім домам для ўсіх тых, чые продкі з веку ў век шчыравалі на гэтай зямлі, ствараючы духоўную і матэрыяльную культуру беларускай нацыі. Зыходзячы з гэтага, мы лічым, што кожны, хто паходзіць з Беларусі, незалежна ад таго, дзе ён жыве цяпер, мае натуральнае права прыняць удзел у будаўніцтве новай Беларусі, у адраджэнні беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, мовы, традыцый, усяго таго, што стварае воблік цывілізаванай дэмакратычнай краіны.

Адчуваючы вялікую адказнасць за будучыню нашай Радзімы, мы лічым неабходным выкласці і давесці да ведама грамадскасці Беларусі, парламента і ўрада агульныя думкі ўдзельнікаў Сходу па асноўных аспектах палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы:

1. Галоўнае, што трывожыць нас сёння, гэта тое, што ўрадавымі коламі яшчэ не зацверджана канцэпцыя нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь з шырокім абмеркаваннем яе сярод грамадскасці. У гэтай канцэпцыі павінна быць вызначана, якая дзяржава будуецца, у якім накірунку будзем рухацца, якія прынцыпы дзяржаўнай арганізацыі возьмем за ўзор для сябе, павінна быць паказана геапалітычная стратэгія, месца Беларусі ў аднаўленай Еўропе. У палітыцы рэспублікі прадаўжае дамінаваць арыентацыя на захаванне несамастойнай Беларусі, залежнасці яе ад былога цэнтра. На нашу думку, грунтоўная навуковая канцэпцыя дзяржаўнага будаўніцтва з выкарыстаннем сусветнага вопыту і нацыянальных здабыткаў павінна быць распрацавана і зацверджана неадкладна. Беларусы замежжа маглі б таксама прыняць удзел у гэтай адказнай працы. Яна павінна быць здабыткам калектыўнай думкі ўсіх талентаў, якія сёння мае беларуская нацыя.

2. Мы цвёрда перакананы, што новая беларуская рэспубліка павінна будавацца на прынцыпах дэмакратыі, паводле якіх правы чалавека з'яўляюцца прыярытэтнымі над інтарэсамі дзяржавы. Па гэтай прычыне мы выказваем нязгоду з рашэннем Вярхоўнага Савета Беларусі адмовіць у правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму аб даверы парламенту, за які выказаліся амаль паўмільёна грамадзян. Удзельнікі сходу падтрымліваюць прапанову аб пераглядзе гэтага рашэння, выкладзеную ў заяве больш чым сямідзесяці прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, апублікаванай «Народнаю газетаю» 3.12.92.

3. Адраджэнне беларускай дзяржаўнасці немагчыма без нацыянальнага адраджэння народа, яго мовы і культуры. Але працэс гэты ў рэспубліцы ідзе марудна. Ён не толькі не стымулюецца належным чынам з боку дзяржавы, а наадварот, апошнім часам сталі відавочнымі тэндэнцыі да яго абмежавання. Дайшло да таго, што на афіцыйным узроўні пачалі гучаць прапановы аб правядзенні рэферэндуму па мове, патрабаванні ўзаконіць двухмоўе і г. д. Тут, у сталіцы рэспублікі, не гаворачы ўжо пра іншыя гарады, па-ранейшаму валадарыць руская мова. Не ўсюды зменены ранейшыя камуністычна-партыйныя шыльды на будынках, назвы вуліц, надпісы ў грамадскіх месцах. Тым, хто прыехаў на Радзіму здалёк, хацелася б чуць тут беларускую мову, бачыць нацыянальны духоўны асяродак. А калі такая сітуацыя на Бацькаўшчыне, то ці можам мы, замежныя беларусы, разлічваць на яе дапамогу ў арганізацыі нацыянальнага жыцця для нас у іншых дзяржавах?

4. Улічваючы тое, што падмуркам любой дзяржавы, гарантам яе самастойнасці, унутранага спакою і дабрабыту грамадзян з'яўляецца надзейная эканамічная база, удзельнікі сходу выказваюць занепакоенасць у сувязі з блакіраваннем эканамічных рэформ у рэспубліцы. Эканамічна нестабільная, аслабленая дзяржава не можа падтрымаць сваю дыяспару ў свеце, быць для яе надзейнаю апораю і шчодраю маці. У сваю чаргу, у час станаўлення эканомікі незалежнай Беларусі замежныя беларусы прапануюць сваю дапамогу ў наладжванні эканамічных стасункаў з іншымі дзяржавамі, удзел у вырашэнні эканамічных праблем у самой Беларусі.

5. Рэальную небяспеку для адзінства беларускага народа стварае канфесійная сітуацыя ў Беларусі. Заклікаем парламент і ўрад рэспублікі надаваць увагу ўсім канфесіям, не даючы перавагі ніводнай з іх. Нашым нацыянальным інтарэсам адпавядае палітыка адраджэння і захавання ўсіх рэлігійных канфесій, якія гістарычна існавалі ў Беларусі і спрыяюць сёння нацыянальна духоўнаму адраджэнню Бацькаўшчыны. Царква не павінна быць сродкам дасягнення палітычных мэт. Тым больш, не павінна быць праваднікам інтарэсаў іншых дзяржаў на нашай Радзіме.

Удзельнікі сходу выказваюць надзею на паразуменне з дзяржаўнымі ўладамі, усімі палітычнымі, грамадскімі партыямі і рухамі ў рэспубліцы, зацікаўленымі ў адраджэнні беларускай дзяржаўнасці на прынцыпах незалежнасці, дэмакратыі, абароны правоў чалавека. Мы імкнемся да сумеснай працы на карысць нашай Бацькаўшчыны і верым, што Беларусь стане жаданай зямлёю для ўсіх беларусаў у свеце.

# Да народа Беларусі

Мы, прадстаўнікі беларускіх арганізацый і зямляцтваў з абшараў былога Саюза і Польшчы, дзе пражывае больш за 2 мільёны беларусаў, сабраліся на покліч Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», на свой Першы Сход. Выяўляючы трывогу за лёс Беларусі, звяртаемся да ўсяго беларускага народа, грамадзян незалежнай Рэспублікі Беларусь з заклікам усвядоміць адказнасць моманту па адраджэнні беларускай дзяржаўнасці, мовы, культуры і традыцый народа.

Жывучы на адрэзаных ад Бацькаўшчыны па волі няўдзячнага лёсу этнічных беларускіх землях ці ў аддаленых ад яе краінах, мы не страцілі пачуцця ўласнай нацыянальнай годнасці, усведамлення, што Беларусь яшчэ тысячу гадоў назад пачала разбудоўваць уласную дзяржаўнасць і дасягнула ў гэтым найвышэйшага ўзлёту ў часы Вялікага княства Літоўскага — супольнасці некалькіх народаў.

І ў старажытнасці, і ў Сярэдневеччы нашы продкі былі вялікімі патрыётамі сваёй зямлі і здабывалі яе славу як у ваяцкіх чынах, так і на ніве духоўнага самасцвярджэння. Вечная ім слава за перамогі пад Грунвальдам і Воршаю, за тое, што беларус Францішак Скарына даў не толькі роднаму народу, але і ўсяму ўсходняму славянству мудрасць друкаванага слова, што ў нас была створана і дзейнічала найдасканалая для свайго часу Канстытуцыя — Статут Вялікага княства Літоўскага!

Дык хіба можам мы, нашчадкі вялікага народа з такой багатай, а потым і трагічнай гісторыяй, быць абыякавымі да ўласнага лёсу, да патрэб нацыянальнага Адраджэння, якое толькі і можа быць гарантам шчаслівай будучыні, таго, што беларусы зноў станучь гаспадарамі на роднай зямлі, дзе і рускія, і палякі, і ўкраінцы, і яўрэі, і літоўцы, і татары, што спрадвеку жылі тут ці нядаўна трапілі, усвядомяць, што Беларусь і ім стала родным домам, у якім яны могуць пачувацца ўпэўнена, як вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі?!

Дык будзьма ў гэты час з'яднанымі і духоўна моцнымі, каб наша Маці-Беларусь стала сапраўды незалежнай, эканамічна і духоўна развітой дэмакратычнай дзяржавай у цэнтры Еўропы!

# Да беларусаў свету

Дарагія браты і сёстры!

Мы, удзельнікі Сходу беларусаў блізкага замежжа, горача вітаем усіх вас, каго розныя жыццёвыя варункі закінулі далёка ад зямлі сваіх продкаў. Ведаем, нялёгкая доля дасталася ўсім вам, не проста было ўладкаваць свой лёс у адасобленасці ад родных гоняў. Але і за тысячы вёрст ад Бацькаўшчыны высока трымалі вы гонар беларуса і Беларусі, самаадданна перахоўвалі для ўсіх нас у чысціні і святасці нашы дзяржаўныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Шчыра жадаем кожнаму з вас моцнага здароўя і чалавечага шчасця!

Сёння разам з вамі мы цешымся, што новыя парасткі на ніве беларускага Адраджэння набіраюцца моцы і развіваецца імкненне да нацыянальнай кансалідацыі.

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», як маладая незалежная арганізацыя, не абцяжараная ідэалагічнымі догмамі і стэрэатыпамі, рабіла і будзе рабіць усё, каб будаваць мост лучнасці, даверу і дружбы паміж сынамі Беларусі на ўсіх кантынентах планеты.

Спадзяёмся, што трывалым і надзейным падмуркам у гэтай будоўлі стане Першы з'езд беларусаў свету, які мы мяркуем правесці летам 1993 года ў Менску.

Гэты з'езд мы разглядаем як важнейшую агульнанацыянальную акцыю ў справе яднання беларускай нацыі дзеля адраджэння незалежнай, суверэннай Беларусі.

Жыве Беларусь!

# Да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь

Мы, беларусы з краін блізкага замежжа, сабраўшыся ў сталіцы суверэннай Беларусі на свой Першы Сход, усведамляем глыбокую лучнасць з Бацькаўшчынай і імкнёмся да таго, каб гэтую повязь мацаваць надалей. Але такое магчыма толькі тады, калі і Беларусь будзе дбаць пра сваіх суродзічаў.

З улікам грунтоўна абмеркаваных на сходзе праблем яго ўдзельнікі звяртаюцца да парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь з прапановамі **па ўстанаўленні сувязей з беларусамі ў іншых краінах дзеля падтрымкі і абароны іх правоў ва ўмовах нестабільнасці эканамічных і палітычных варункаў і забеспячэння магчымасцей нацыянальнага жыцця:**

1. Прасіць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь абавязаць Камісію па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах займацца пытаннямі беларускай дыяспары.

2. Прасіць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь стварыць Дзяржаўны Камітэт па нацыянальных пытаннях, адной з задач якога было б вырашэнне праблем культурнага, эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця беларускай дыяспары, рэальная дапамога ў гэтым Згуртаванню «Бацькаўшчына».

3. У аснове падтрымаць распрацаваны па ініцыятыве кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь Акадэміяй навук Беларусі праект канцэпцыі праграмы пад назвай «Беларусы ў свеце» і на яго падставе, з улікам прапаноў і дакументаў нашага Сходу прадставіць на абмеркаванне Першага З'езда беларусаў свету праект праграмы па супрацоўніцтве з беларускай дыяспарай.

4. Прыспешыць выкананне пастановы Саўміна РБ «Пытанні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» па арганізацыі Культурнага Цэнтра (Беларускага Дома) — грамадскага, культурна-асветнага і эканамічна-камерцыйнага асяродка беларускай дыяспары.

5. Паскорыць адкрыццё прадстаўніцтваў у краінах, дзе жывуць беларусы, стварыць там рэгіянальныя грамадска-асветныя цэнтры.

6. Заключыць двухбаковыя пагадненні з краінамі, дзе жывуць беларусы, з мэтаю абароны там іх правоў, стварэння ўмоў для задавальнення імі нацыянальна - культурных запатрабаванняў.

7. У межах заканадаўства іншых краін і на падставе двухбаковых пагадненняў з імі аказаць дапамогу беларускай дыяспары ў адкрыцці беларускіх школ, культурна-асветных цэнтраў, перыядычнага друку, радыё- і тэлеперадач, забеспячэнні інфармацыяй пра Беларусь, мэтанакіравана фінансаваць гэтыя напрамкі дзейнасці.

8. Стварыць ільготныя ўмовы выхадцам з Беларусі, у параўнанні з асобамі з іншых краін, для паступлення на вучобу ў ВНУ, для набыцця маёмасці, арганізацыі камерцыйнай дзейнасці, бізнесу ў Рэспубліцы Беларусь.

9. Стварыць усе ўмовы для вяртання на Радзіму (асабліва з неспакойных мясцін былога СССР) інтэлектуальна - адораных, адукаваных выхадцаў з Беларусі, прадумаць механізм падключэння лепшых інтэлектуальных сіл беларускай дыяспары для вырашэння праблем духоўнага і эканамічнага адраджэння Бацькаўшчыны.

10. Забяспечыць першачарговае перад іншымі перасяленнямі выдзяленне беларусам, якія вяртаюцца на Радзіму, зямельных участкаў, беспрацэнтных грашовых пазык для індывідуальнага будаўніцтва, задавальненне іншых матэрыяльных выгад.

11. Пацвердзіць беларускае грамадзянства тым, хто нарадзіўся і цяпер жыве ў Беларусі, але на момант прыняцця закона аб грамадзянстве не меў у Беларусі **пастаяннай прапіскі.**

Удзельнікі сходу звяртаюць увагу на тое, што асобныя раёны сённяшняга беларускага блізкага замежжа, а менавіта Віленшчыны, Латгаліі, Беласточчыны, паўднёвай Пскоўшчыны, паўночнай Чарнігаўшчыны, заходняй Смаленшчыны і Браншчыны, з'яўляюцца рэгіёнамі спаконвечнага пражывання беларускага этнасу.

У часе пакутлівага станаўлення беларускай дзяржаўнасці гэтыя землі апынуліся ў складзе суседніх дзяржаў. Аднак да нашага дня асноўная маса іх жыхароў, нават пры адсутнасці ярка выяўленай беларускай нацыянальнай свядомасці, захавала беларускую ідэнтычнасць (самаітасць), што дастаткова наглядна выражаецца ў мове, абрадах, звычаях, народна-паэтычнай культуры. Бацькаўшчына не можа і далей заставацца абыякавай да духоўна-культурных праблем гэтых суродзічаў. Першы Сход беларусаў блізкага замежжа лічыць неабходным увайсці ў хадайніцтва перад урадам РБ **са спецыфічнымі праблемамі суайчыннікаў блізкага замежжа,** каб у межах заканадаўства гэтых краін і на падставе адпаведных двухбаковых пагадненняў з імі зрабіць наступныя крокі:

— дапамагчы ў гэтых рэгіёнах стварыць беларускія культурна - асветныя асяродкі (клубы, бібліятэкі, школы і інш.), выдзеліць неабходныя сродкі на набыццё для такіх асяродкаў будынкаў, забяспечыць іх абсталяваннем, кнігамі, падручнікамі, перыядычнымі выданнямі і г. д.;

— узмацніць тэхнічную магутнасць Беларускай тэлерадыёкампаніі з тым, каб тэле- і радыёперадачы з Мінска можна было бесперашкодна прымаць ва ўсіх рэгіёнах спаконвечнага пражывання беларускага этнасу;

— рыхтаваць у ВНУ Беларусі спецыялістаў з ліку беларусаў блізкага замежжа, выдзеліць, пачынаючы з 1993-94 навучальнага года, квоты ва ўсіх беларускіх ВНУ для беларусаў замежжа і запаўняць гэтыя квоты абітурыентамі па рэкамендацыях беларускіх замежных суполак;

— пасылаць у рэгіёны блізкага замежжа навукова-даследчыя групы фалькларыстаў, этнографаў, музыколагаў і мовазнаўцаў для збору і наступнага выдання матэрыялаў па народнай культуры, духоўнай і матэрыяльнай;

— пасылаць у рэгіёны кампактнага пражывання беларусаў фальклорныя і прафесійныя мастацкія калектывы, беларускі тэатр, групы пісьменнікаў, дзеячаў культуры для культурна-асветнай працы.

Першы сход беларусаў блізкага замежжа лічыць культурна-асветную працу ў рэгіёнах спаконвечнага пражывання беларускага этнасу працай **першаступеннай важнасці.**

Удзельнікі сходу, разумеючы неабходнасць умацавання Беларуссю сваёй дзяржаўнасці, суверэнітэту і агульнай бяспекі яе грамадзян, звяртаюць увагу Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і на **неадкладнае вырашэнне вайсковых пытанняў.** Сход:

— падтрымлівае намаганні групы афіцэраў Узброеных Сіл РБ па выхаванні нацыянальна свядомых і патрыятычна настроеных салдат і афіцэраў — сапраўдных абаронцаў вольнай, незалежнай непадзельнай Беларусі;

— лічыць апраўданым паступовы, але незацяжны пераход Узброеных Сіл на беларускую мову ў адпаведнасці з законам;

— прыхільна ставіцца да ідэі выдання самастойнага беларускага ваенна-гістарычнага часопіса, выказанай на старонках рэспубліканскага перыядычнага друку;

— салідарызуецца з Беларускім Згуртаваннем Вайскоўцаў і іншымі патрыятычна настроенымі афіцэрамі ў намаганнях пашырыць сярод беларускіх вайскоўцаў веды па беларускай мове, культуры, гісторыі, лічыць такую справу справай дзяржаўнай важнасці;

— выказваецца за неабходнасць канкрэтных і дзейсных захадаў па вяртанні, размяшчэнні і прызначэнні на пасады ў беларускія Узброеныя Сілы афіцэраў-беларусаў, якія жадаюць абараняць незалежнасць сваёй дзяржавы, але па тых ці іншых прычынах працягваюць служыць у арміях замежных дзяржаў — рэспублік былога СССР;

— лічыць недапушчальнай дыскрымінацыю (звальненне ў запас, адстаўка і г. д.) афіцэраў за адстойванне патрыятычных ідэй, нацыянальнае адраджэнне ва Узброеных Сілах Беларусі, якімі б знешне «праваможнымі» матывамі гэтае звальненне ні прыкрывалася;

— просіць урад Рэспублікі Беларусь не дапусціць правядзенне ў лютым 1993 года запланаванай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай рускаму палкаводцу А. Суворава, паколькі яе тэматыка супярэчыць нацыянальным ваенна-гістарычным традыцыям і прывядзе да канфрантацыі ў грамадстве;

— лічыць мэтазгодным правядзенне пераатэстацыі кіруючых асоб Узброеных Сіл РБ камісія па складу дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі, прадстаўнікоў Кантрольнай Палаты і грамадскасці. Вынікам пераатэстацыі павінна быць высновa аб удзеле тых ці іншых асоб у злоўжываннях, аб ступені іх адданасці справе абароны незалежнасці беларускай дзяржавы.

Першы Сход беларусаў блізкага замежжа ў цэлым ухваляе асноўныя напрамкі, шляхі і формы дзейнасці Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», яго Рады і Управы, якія з'яўляюцца арганізатарамі нашага мерапрыемства. **Выказваем упэўненасць у патрэбе стварэння спрыяльных умоў для дзейнасці гэтай неабходнай і карыснай** для замежных беларусаў грамадскай арганізацыі. У сувязі з гэтым Сход звяртаецца да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з наступнымі просьбамі:

— вызваліць ЗБС «Бацькаўшчына» ад падаткаў з гаспадарчай дзейнасці;

— вызваліць ад падаткаў тыя сродкі, якія іншыя прадпрыемствы і ўстановы пералічаюць на рахунак «Бацькаўшчыны»;

— устанавіць мінімальную мытную пошліну для тавараў, якія правозяцца праз мяжу Беларусі для «Бацькаўшчыны» і самой «Бацькаўшчынай» — для беларусаў замежжа;

— устанавіць ільготны прапускны рэжым для суродзічаў, якія прыязджаюць на Радзіму па запрашэннях «Бацькаўшчыны», і для асоб, якія выязджаюць за мяжу ад імя «Бацькаўшчыны»;

— дапамагчы Згуртаванню «Бацькаўшчына» ў забеспячэнні для яго выдавецкіх патрэб папераю па дзяржаўнай цане, у тым ліку — на выданне штогадовіка «Беларускае замежжа», перыядычнага органа, выдання лепшых публіцыстычных, навуковых і літаратурна-мастацкіх твораў аўтараў беларускага замежжа і г. д.;

— выдзеліць, па магчымасці ў асобным прэстыжным будынку (разам з «Беларускім Домам») памяшканне пад офіс ЗБС «Бацькаўшчына»;

— падтрымаць захады Згуртавання «Бацькаўшчына» па стварэнні Саюза прадпрымальнікаў беларускага замежжа, адпаведнага Банка і грамадскага Фонду ўзаемадапамогі;

— а таксама намер арганізаваць на возеры Нарач на базе лагера «Зубраня» летніка з навучаннем, адпачынкам і экскурсіямі для дзяцей беларускай дыяспары.

Удзельнікі сходу выказваюць падзяку Вярхоўнаму Савету, Савету Міністраў, міністэрствам і ведамствам Рэспублікі Беларусь за дапамогу Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў правядзенні гэтага сходу і спадзяюцца на далейшыя спрыяльныя адносіны дзяржаўных структур да патрэб беларускай дыяспары.

# ДА ПАРЛАМЕНТАЎ І ЎРАДАЎ ДЗЯРЖАЎ,

## якія ўваходзілі раней у склад СССР

**У перыяд існавання адзінай унітарнай дзяржавы СССР многія дзесяткі і сотні тысяч беларусаў аказаліся за межамі Бацькаўшчыны. Гэта было выклікана шэрагам аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын: палітычнымі рэпрэсіямі 20—50-х гадоў, эвакуацыяй насельніцтва БССР у 1941 годзе, прымусовымі і добраахвотнымі вярбоўкамі беларусаў на шахты Данбаса, сланцавыя радовішчы Эстоніі, лесараспрацоўкі Карэліі, цаліныя землі Казахстана, пракладку Байкала-Амурскай магістралі і г. д. Да выезду за межы Беларусі маладых, найбольш адукаваных людзей прыводзілі служба ў Савецкай Арміі, усесаюзнае размеркаванне маладых спецыялістаў у некаторых беларускіх ВНУ і інш. Нямала беларусаў, якія памянялі месца жыхарства, знайшлі на іншых землях і сярод людзей іншых нацыянальнасцяў сваю другую радзіму. Яны засвоілі звычаі, традыцыі, культуру, мову гэтай другой радзімы, аддаюць дзеля яе росквіту ўсе свае сілы і здольнасці. Разам з тым яны не парываюць сувязяў і са сваёй Бацькаўшчынай, якая дала ім жыццё, надзяліла роднай мовай, неацэнным скарбам роднай культуры.**

**Сабраўшыся на свой сход, мы звяртаемся да парламентаў і ўрадаў дзяржаў, якія ўваходзілі раней у склад СССР, з просьбаю аказаць беларусам усебаковае садзеянне ў рэалізацыі іх нацыянальна-культурных запатрабаванняў, у іх прававой абароне, у захаванні і пашырэнні сярод іх беларускай мовы, культуры, звычаяў, гістарычнай памяці. Гэта паслужыць не толькі захаванню і духоўнаму ўзбагачэнню беларускага этнасу, але і развіццю беларуска-іншанацыянальных культурных узаемасувязяў, узаемаўзбагачэнню розных народаў і іх культур, а ў канчатковым выніку — умацаванню дружбы паміж беларускім і іншымі народамі, захаванню міру на нашай неспакойнай планеце. Са свайго боку, мы будзем рабіць усё магчымае, каб прадстаўнікі вашых дзяржаў, якія цяпер з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, мелі аналагічныя правы і ўмовы нацыянальна-культурнага жыцця.**

# ДЗЯКУЙ ТАБЕ, АШГАБАТ!

Па-рознаму прыходзяць людзі да асэнсавання сваёй свядомасці. Як гэта ні дзіўна, зразумець тое, што я беларус, мне дапамог Ашгабат. Амаль што юнацкія гады, праведзеныя ў туркменскай сталіцы, вызначаліся мноствам сустрэч з землякамі. З журналістамі і літаратарамі, з простым людам, з вандроўнікамі па жыцці і з сталымі жыхарамі Туркменістана.

І зараз удзячны Івану Васільевічу Багданаву, герою-франтавіку, які пазнаёміў мяне з руплівым літаратарам-краязнаўцам Міколам Калінковічам, аўтарам кніг пра Лунінец, пра палескія дні Аляксандра Блока. А яшчэ ж Мікола (на вялікі жаль, пайшоў з жыцця, не разменяўшы і дня на пяты дзесятак гадоў) — аўтар трох ёмістых кніг, што выдадзены ў Ашгабаце. У іх жа («Не парываецца зямная сувязь», «Імя маё «Свабода», «Вяртанне світальнага рання») паяднаны ў адно цэлае Беларусь і Туркменія.

Ніколі ўжо не перададуць ашгабацкія сябры прывітанне ад Васіля Слушніка. Вядомы і на Беларусі радыёжурналіст, ён прыязджаў у Туркменію, каб падлячыць крыху ныркі. І заставаўся штораз на некалькі гадоў. У апошні прыезд узначаліў рэдакцыю рэспубліканскай газеты «Туркменская искра». Рэдактарскі клопат не дазваляў часта выступаць у друку, займаў процьму часу. Але ж Васіль Уладзіміравіч жыў клопатам і пра Беларусь. У памяці і сёння размовы з ім пра гістарычныя, культурныя і літаратурныя беларуска - туркменскія сувязі. А з якім узрушэннем, з якім душэўным перажываннем на памяць цытаваў Слушнік урыўкі з хатынскай паэмы Анаберды Агабаева!

Міхась Карпенка... Дзесяцігоддзі назад трапіўшы ў Туркменістан, ён у паэзіі сваёй ніколі не развітваўся з родным домам. Пазнаёміўшыся недзе на пачатку 1986 года, мы бясконца гатовы былі і ў лістах (жыў і зараз жыве Міхась Фядотавіч на поўначы Туркменіі, у Ташаузе), і падчас сустрэч гаварыць толькі пра Беларусь. Радзімая ж старонка—і галоўная тэма ў кнігах Міхася Фядотавіча «Чырвоны колас», «Бярозавая галінка», і ў многіх іншых вершаваных зборніках, што выдадзены і ў Ашгабаце, і ў каракалпакскай сталіцы — Нукусе.

А Валодзя Грачоў... Радыёжурналіст, рускі па нацыянальнасці, выпеставаны Ваўкавыскам. Колькі цудоўных беларускіх слоў, фразем падаравалі гутаркі з ім! З чалавекам, які воляю лёсу пакінуў Беларусь яшчэ напрыканцы пяцідзесятых...

Ашгабат, Ашгабат... Колькі слаўных старонак беларускай культуры, мастацтва і літаратуры адкрыў ты для мяне. Тут, пад вечаровы пошум арыкаў, я ўчытваўся ў ашгабацкія старонкі «Дзённіка для сябе» Б. Мікуліча. Тут шукаў я сцежкі герояў рамана Аркадзя Марціновіча «Не пакідай слядоў сваіх». А ідучы па праспекце Волі (зараз — праспект Махтумкулі), углядаўся ў помнік вялікаму Фрагі, створаны беларускім скульптарам. А вечарам прыцягваў да сябе тэатр, дзе пастаноўкі (і п'ес беларускіх драматургаў гэтаксама) ладзіў беларускі рэжысёр Георгій Нестар.

Даўно ўжо пакінуў Ашгабат. Следам за Туркменіяй чакалі мяне новыя вандроўкі... А вось зусім нядаўна атрымаў з туркменскай сталіцы вестку: як быццам бы ладзіцца там зямляцтва. Збіраюцца разам беларусы, гавораць пра Радзіму, імкнуцца не згубіць сваю повязь з беларускай старонкай.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**журналіст.**

па выставах ды балетнай вучэльні, — такой знакамітай, што папрасіць аўтограф у педагога знакамітых балерын Надзеі Паўлавай ды Вольгі Чэнчыкавай — Людмілы Сахаравай — паўстала чарга з тэатральных крытыкаў ды акцёраў... І яшчэ адно назіранне-ўрок: не адно праграмкамі ды піражнымі радавалі фестывальных гледачоў у пачакальні малой сцэны Драматычнага тэатра. Кнігагандаль парупіўся пра цудоўныя томікі Марыны Цвятаевай, пра сувенірныя кніжкі-малюткі з радкамі рускіх паэтаў, — добрым дзесяткам назваў ды прозвішчаў стракацеў прылавак. Кнігі разам з кветкамі дарылі пасля спектакляў удзельнікам фестывалю.

...А ўдзельнікі жорстка патрабавалі ацэнак ды высноў, рыхтавацца да якіх даводзілася хвілін дваццаць паміж апладысментамі ды цыгарэтай пасля фіналу. Але звышзадача ледзь не кожнага крытыка была да смешнага наіўная; каб акцёры... пачулі. Каб захацелі пачуць. («Рэцэнзіі — вашы ролі, і вы іх іграеце, і можаце правальіцца, а можаце заззяць ды парадаваць людзей», — мудра папярэджваў старшыня журы. Урок крытыкам: як зрабіць так, каб цябе пачулі? Уладзімір Рэцэптэр валодае магіяй пераканаўчасці, — самыя натапыраныя ды злосныя дачувалі. Але за кулісамі часцяком чулася перад абмеркаваннем: «Ізноў ісці на гэтую Галгофу!».) Нешта няўлоўна-недалікатнае атабарылася ў пермскіх акцёрска-крытычных дачыненнях, — работу аднаго аналізавала грамада, і акцёры, што бралі слова, рызыкавалі патрапіць пад абстрэл пасля ўласнага спектакля. Вынікам былі доўгія кампліменты альбо развагі «з нагоды». Крытыкі збіваліся на жорсткасці... Нашы пазасцэнічныя карціны, звязаныя героямі-акцёрамі, не звязвала дыхтоўнае скразное дзеянне, бо (чарговы пермскі ўрок!) прызначэнне вячэрніх абмеркаванняў, паменаванае лабараторыяй (а прызы між тым давалі!), на самай справе ставала шараговым ацэньваннем паказанага. Між тым крытыкі маглі (і мусілі былі) забіраць шырэй ды глыбей, скажам, падрыхтаваўшы канферэнцыю альбо мэтанакіраваны абмен ведамі ды думкамі... Развіццё пермскіх фестывальных падзей самотна выдавала на тое, што крытыкі ды акцёры размаўляюць на розных мовах, пры гэтым першыя другіх разумеюць, але другія першых, як я ўжо заўважыла, адмаўляюцца нават пачуць... Зрэшты, дасціпная Наталля Інакенцьеўна Свішчова з Саратава прапанавала калегам не дужа дурыць сабе галаву пошукамі моўна-стылёвых адпаведнасцяў ды паразуменняў, нагадаўшы, што тэатральная крытыка — гэта не пераклад са сцэнічнай мовы на газетную. Напачатку было слова, так, але ж словам нішто не абмяжоўвалася! Пэўны ўрок убачыўся мне і ў ейным раскутым выступленні, — урок, які прастадушна нагадаў пра бязмежжа мастацтва і страшэнную небяспеку адасаблення людзей мастацтва... Перадусім — ад саміх сябе. «Трэба, трэба ездзіць, глядзець ды... сябраваць», — чулася ад калегаў ды паплечнікаў па мастацкіх схільнасцях; «Трэба спатыкацца найчасцей ды разумецца найшчырэй», — прапаноўвалі самыя нецярплівыя. Нашы вохканні ды спадзяванкі падсумаваў Уладзімір Рэцэптэр, сказаўшы, што гэта — самая найдыхтоўная падстава трывала заставацца... адным — каб выходзіць на сцэну і жартам парушаць усе самыя мастацкія, самыя магутныя законы — дзеля магутнасці ды сур'ёзу самога мастацтва.

P. S. Дбаючы пра паразуменне, пакідаю для зацікаўленых каардынаты Таццяны Акулавай, якая па-ранейшаму арганізуе ды зберагае фестываль монаспектакляў «Напачатку было слова...»: 614001, Расія, Перм, в. Савецкая, 69, т. 65-32-33.

**Жана ЛАШКЕВІЧ.**

**ВЫСТАВЫ**

# МАЦІ НАША — ДЗВІНА-ДАЎГАВА

**Вячка Целеш — беларускі мастак у Рызе. Нарадзіўся Вячка на Гродзеншчыне ў 1938 годзе. Так склалася, што мастацкую адукацыю атрымаў у Латвіі, у Рызе. У 1970—1975 гадах В. Целеш вучыцца ў Латвійскай акадэміі мастацтваў. Першую персанальную выставу зрабіў у 1976 годзе. З таго часу ягоныя творы неаднойчы экспанаваліся на выставах рознага рангу ў Балтыі і Беларусі, а таксама ў «дальнім замежжы» — Фінляндыі, Швецыі, Даніі, ЗША, Канадзе. Зараз Вячка Целеш выставіў свае творы — жывапіс і графіку — у Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. Ягонае мастацтва абсалютна натуральна ўспрымаецца і ў беларускім, і ў латвійскім кантэксце. Нават тэматычна ягоныя творы — як мост паміж дзвюма аднакарэннымі культурамі: «Маці наша — Дзвіна-Даўгава (Купала і Райніс)», «Першыя крокі ў свет. Францішак Скарына ў Рызе», партрэты сяброў мастака — беларусаў і латышоў, краявіды Беларусі і Латвіі. Як вельмі цікавую хацеў бы адзначыць прыгаданую вышэй работу «Першыя крокі ў свет...» На ёй хлопчык Францішак на фоне старой Рыгі. Вядома, што бацька нашага Першадрукара вёў гандаль з ганзейскімі гарадамі і вельмі верагодна, што неяк браў з сабой у падарожжа па Дзвіне-Даўгаве сына. Так Францішак пазнаваў свет і вучыўся лічыць грошы — а гэта не апошняя рэч у выдавецкай справе.**

**Скарына ў Рызе — здаецца, В. Целеш першы, хто звярнуўся да гэтага сюжэта.**

**У некаторых графічных аркушах (у прыватнасці, у нізцы «Касмічныя шляхі») чуецца водгулле матываў Язэпа Драздовіча. Можа, нехта мяркуе, што творчасць В. Целеша не надта ўпісваецца ў сучаснае жыццё, калі карэнным чынам пераглядаецца ці не ўсё, што раней лічылася нормай. Ці не занадта спакойны жывапіс для знерваванага часу? Але, можа, гэта якраз адзнака трываласці.**

**П. В.**



В. ЦЕЛЕШ. «Першыя крокі ў свет. Францішак Скарына ў Рызе».

# КАЗАЧНІК З ВУЛІЦЫ ЎСХОДНЯЙ

**«Без Беларусі, без гэтага асаблівага наваколля, атмасферы ўражанняў і пачуццяў мая творчасць не была б такой. Усё атрымалася б неяк інакш, я б пайшоў іншым шляхам»,—расказвае Камал, выпускнік Беларускай Акадэміі мастацтваў. Я са свайго боку ўпэўнены, што гэта не проста камплімент расчуленага мастака. У яго за плячыма гады вучобы ў Баку, Маскве, Пецярбурзе. Мяцежная душа ўрэшце знайшла раўнавагу ў мінскай ALMA MATER, чаму садзейнічалі педагогі Г. Ващчанка і М. Данцыг. Але факты не паддаюцца простай, прамалінейнай логіцы. Уплыў беларускай традыцыі не пазбавіў мастака індывідуальнасці. Засваенне асноў манументальнага і станковага жывапісу з урокаў беларускіх майстроў генерыравала не стылістычнае паслядоўніцтва, а поўнае вызваленне самабытнага таленту. Няхай не гучыць надта пампезна, але ў гэтым — безумоўнае дасягненне нашай мастацкай школы. І, вядома, самога мастака, які скончыў інстытут два гады назад, у 36-гадовым узросце, прайшоўшы праз такія непадобныя творчыя кузні. Тут не адзін зламаўся б.**

**Каміль Камал нарадзіўся ў азербайджанскай сялянскай сям'і ў Грузіі. Дзесяць год ён жыве ў Мінску, жонка Ірына — беларуская актрыса, сын Руслан — ужо тутэйшы мінчук. Раней бы прыляпілі лухту пра шматцвецце савецкага мастацтва. Тут яна зусім іншы выпадак. Камал сустрэў сваю музу, знайшоў натхненне на нашай зямлі, у рэчышчы нашай культуры і, будзем спадзявацца, аддзячыць ёй яшчэ многімі творамі. Што скажа ён сам пра гэта?**



Каміль КАМАЛ «Вандроўнікі»



Каміль КАМАЛ. «Вавілон майго сына».

«Я з захапленнем чытаў вершы Амара Хаяма ў перакладзе Рыгора Барадуліна. Арабская вязь дзякуючы паэту загучала на старажытнай славянскай мове, гэта цуд! Барадулін блізкі маёй душы. Вельмі кранулі мяне настальгічнай інтанацыяй ягоныя радкі:

Разламаны гранат Баку!  
Зоры ў небе,  
І зоры — доле!

Тэма маіх твораў можа паказацца экзатычнай. Але, як бы гэта сказаць... Я б хацеў быць для Беларусі перакладчыкам гэтых мастацкіх вобразаў».

Забаўнае супадзенне: Камал жыве з сям'ёй і працуе ў маленькім пакоі ў раёне вуліцы **Усходняй.** Завітаўшы да яго, трапляеш у куток, дзе пануе незвычайная стыхія... **Усходу.** Каларыстычную мелодыку карцін і малюнкаў можна вызначыць як суладдзе нечаканасцей і кантрастаў. Ад духмянага чыстага блакіту да сонечнай спякоты жоўтых тонаў і крывавых водбліскаў чырвані. Лінія жыве самастойным жыццём, не заўсёды слухаецца колераў. То выгінаецца з пагрозлівай грацыяй кобры, то працінае кампазіцыю імклівай стралой. Кожны твор — гэта асаблівы характар, да яго трэба прызвычайвацца.

Многім успомняцца казкі «Тысячы і адной ночы», а можа, нядаўняе, такое прыгожае выданне «Азербайджанскіх народных казак» (з ілюстрацыямі К. Шаранговіча). Зусім не банальнымі прагучаць вызначэнні вобразнага і пластычнага ладу твораў Камала: «таямнічыя», «водар Усходу», «пяшчотныя», «узнёслыя»... Усё слушна, толькі гэтыя характарыстыкі не вычэрпваюць усяго багацця матэрыялізаваных мар мастака. Ягоная творчасць, можа, і экзатычная, але зусім не чужая нам. Няхай ягоныя львы не падобныя на львоў Святога Марка з разьбы беларускіх царскіх брам, дзе яны паслухмяна ляжаць ля ног Евангеліста. Але вось радкі прыгаданага Уладзімірам Караткевічам старажытнага харалу:

Вось мой народ,  
Як ільвіца ўстае.  
І, як леў, уздымаецца.  
Пан Бог з намі...

Ад іх патыхае суровасцю далёкіх стагоддзяў, калі ў славянскіх землях зачытваліся азіяцкімі прыгодамі Іскандэра (Аляксандра Македонскага), калі вока беларуса лёгка пазнавала выявы грыфонаў і кентаўраў, іранскі сімвал сілы і вечнасці: львоў пад Дрэвам Жыцця. Мастак набліжае нас да культуры напаўзабытых вытокаў еўрапейскай цывілізацыі, занесеных пяскамі бяспамяцтва. Нагадвае, што Беларусь ляжыць у геаграфічным цэнтры Еўропы. А ці ўсе мы ведаем і памятаем гэта? Як цудоўна было б заснаваць тут таксама культурны цэнтр. Некалі ж «Віцебск быў Парыжам»...

Камал не замыкаецца ў майстэрні, яго хвалююць агульныя праблемы. Землякі выбралі яго старшынёй Таварыства азербайджана-беларускай дружбы «Габустан». «З мерапрыемстваў нашага таварыства больш за ўсё запомніліся выстава беларускай кнігі ў Баку і святкаванне 800-годдзя Нізамі ў Мінску, — расказвае ён. — Гэта вялікая радасць для мяне і маіх таварышаў Акіфа Мамедава, Элхана Керымава, Аскера Абдулаева, Вілаята Мамедава, мастацтвазнаўцы Рустама Ібрагімава і многіх другіх. Я асабіста хацеў бы дапамагчы дзецям, што жывуць у чарнобыльскіх раёнах. Пакуль не ведаю, як гэта зрабіць найбольш эфектыўна».

Мы разам наведалі сталічную сярэднюю школу № 82, каб паглядзець размалёўкі Камала. Дзівіла, што за два гады ягоная дыпломная работа добра захавалася і не пацярпела ад надпісаў ды іншых разбуральных свавольстваў дзятвы. Безумоўная станоўчая роля настаўнікаў і прагрэс у эстэтычным выхаванні. Але, відаць, і дзеці зразумелі летуценныя вобразы і пранікліся чароўнасцю маштабнай кампазіцыі. Зараз мастак завяршае размалёўку ў магазіне «Медычная кніга», што на вуліцы Танкавай. У манументальных творах ягоная фантазія яшчэ больш раскаваная і акрыленая.

«Беларусь і Азербайджан вельмі падобныя сваімі лёсамі. Для мяне стаяць побач Насімі і Сімяон Полацкі. Тут я спазнаў каштоўнасці Скарыны», — так адкрывае мастак яшчэ адну грань свайго крэда. Пажадаем яму застацца верным свайму ідэалу.

**Валеры БУЙВАЛ.**

## Віншуем!

**Сёння спаўняецца 50 гадоў пісьменніку, намесніку старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатолю Жалязоўскаму. Віншуем Анатоля Пятровіча з поўднем веку, зычым яму здароўя і новых творчых поспехаў.**

**А лімаўскім чытачам прапануем рэцэнзію на ягоную новую кніжку прозы «Чаканне шчасця», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура».**



# ДЗЕ ТЫ, БЕРАГ ЧАКАНЫ?

Жыццё пражыць — не поле перайсці... Асабліва, калі ты ў многім не пагаджаешся з «пераважнай большасцю», маеш уласную пазіцыю, а да ўсяго і не хаваеш яе. Больш таго, пазіцыя гэтая не супадае з меркаваннямі начальства, якое, калі глядзець пільней, засталося тое ж самае. У сувязі з працэсамі дэмакратызацыі павінна была б быць большая лаяльнасць у адносінах да тых, хто думае інакш, не падстрайваецца пад іншых. Здавалася б... Але адна справа — нешта дэкляраваць у духу часу, і зусім іншая, калі ўсё тычыцца канкрэтнай сітуацыі.

Правільнасць падобных меркаванняў адчуў, як кажуць, на ўласным гарбе галоўны герой аповесці А. Жалязоўскага «Працістаянне», якая ў кнізе «Чаканне шчасця» займае цэнтральнае месца. Хто ж ён, гэты непрыкаянец, які і ў гады застою лез на ражон, і сёння таксама не хоча перайначвацца? Звычайны, здавалася б, чалавек. Мікалай Пятровіч Буранаў працуе ў абласным упраўленні жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Ці не штодня чуе ад начальства звыклыя папрокі: «Не бачу ініцыятывы» ці нешта накшталт гэтага, вымушаны імітаваць актыўную дзейнасць, займацца звычайнай пісанінай, дапамагаючы тым, хто стаіць на службовай лесвіцы вышэй, «складаць гадавыя, квартальныя, месячныя планы». І ўсё больш пераконваецца, што праца гэта марная і нікому не патрэбная.

Як і чакалася, у Буранава не мог не з'явіцца пратэст супраць усёй гэтай непатрэбшчыны і паказухі. Так, як жыў раней, яму жыць апрыкла. Аднак бяда ў тым, што гэтак, як Буранаў хоча, жыць і працаваць яму не даюць. Не даюць усе тыя Лапіны, Каплуновы, якія, прыкрываючыся звычайнай дэмагогіяй, ініцыятывы якраз і не церпяць. Канфлікт Буранава — канфлікт сумленнага чалавека з агрэсіўна абыякавым асяроддзем.

Абыякавым і агрэсіўным? Тойсёй гатовы запярэчыць: нешта ў падобным спалучэнні не вяжацца. А чаму б і не? Абыякавасць да работы тых, хто звыкся з імітацыяй яе, абмяжоўваецца жаданнем захаваць усё, як было раней, як ёсць сёння. Буранавы з іх сумленнасцю, (магчыма, і не заўсёды здагадваючыся) становяцца тым самым папярок дарогі прыстасаванцам. А тыя — актыўныя. Ужо з'яўляюцца і папрокі, што ідзеш супраць калектыву, і намёкі: калі не падабаецца, дык пішы заяву аб звальненні.

Аповесць востра ставіць пытанні ўзаемаадносін чалавека з калектывам, прымушаючы адначасова задумацца і над такім няпростым пытаннем, дзе ж пачынаецца мяжа, тая лінія, што дазваляе адрозніць калектыў, як спалучэнне аднадумцаў у імя высакароднай мэты, справы, ад звычайнай групы людзей, якая заяўляе аб сваёй праваце, гатовая да дыктату па той простай прычыне, што іх больш, чым сумленных Буранавых?

Разумею, вастрыня пастаноўкі пытання яшчэ не аргумент, каб гаварыць аб вартасці мастацкага твора. Прынамсі, сёння, калі на першы план выходзяць не нейкія меркаванні ідэалагічнага характару, а агульначалавечыя каштоўнасці. Але, на шчасце, новая аповесць А. Жалязоўскага — гэта не адна публіцыстычнасць, а і псіхалагічная выверанасць учынкаў персанажаў, іх паводзін. Найперш, канечне, Буранава. А. Жалязоўскі, спасцігаючы ўнутраны свет галоўнага героя, паказвае Буранава не нейкім там сучасным Дон-Кіхотам, гатовым заўсёды знайсці праціўніка.

Сумленнасць Мікалая Пятровіча — тая здаровая маральная аснова, якой прытрымліваецца ён з сіроцкага маленства. Ён не толькі ад іншых патрабуе прыстойнасці, яна — і праграма яго самога.

**Анатоль Жалязоўскі, аднак, далёкі ад думкі, каб падаваць Буранава гэткім станоўчым героем, якога да нядаўняга часу так настойліва шукала літаратура. Ды і называць Буранава ідэальным няма ніякай неабходнасці. І па той прычыне, што такіх людзей у жыцці ўвогуле не бывае, ды і па іншай, я б сказаў, зусім празаічнай прычыне. Наўрад ці можа назваць ён сябе шчаслівым чалавекам. І ўзаемаадносіны з жонкай нацягнутыя, і дачка, хоць усяго і чатырнаццаць гадкоў мае, але не вельмі бацьку слухаецца. Пакрысе Буранаў прыходзіць да высновы, да якой не мог не прыйсці: «Усё часцей ён пераконваўся, што ва ўласнай кватэры з гаспадара ператвараецца ў староннягa назіральніка, што кіраўніцтва ў сваёй сям'і ён упусціў, без супраціўлення перадаў жонцы. Часам яму здавалася, што чым больш яны жывуць разам, тым больш аддаляюцца».**

Герой пісьменнікам узяты з самога жыцця. Аўтар не «папраўляе» яго, не робіць эталонам, а раскрывае характар Буранава, у многім складаны і супярэчлівы. Для лепшага разумення Мікалая Пятровіча нямала даюць яго стасункі з універсітэцкім сябрам Блатуном. Дарэчы, той, у адрозненне ад іншых, гатовы бачыць у Буранаве звычайнага Дон-Кіхота, пра што не прамінае пры выпадку і нагадаць. Адначасова і сам Блатун як быццам і гатовы раскрыцца: «Пражыў шмат, а жыццё разумееш мала. Я ж дабра табе хачу. Я люблю цябе вось такога... З кім жа мне тады гаварыць пра сваё балючае? З кім сябраваць? А людзей, брат, харошых усё менш і менш... Ну ладна, мы з табой не раз яшчэ пагаворым, а цяпер трэба ехаць».

Праўда, жонка Буранава такія развагі Блатуна ўсур'ёз не ўспрымае: «Мутны ён чалавек. Як вада ў разводдзе. Колькі ні глядзі ў яе, ніколі дна не ўбачыш. Так і Блатун твой — душа пацёмкі». Сапраўды так гэта, але... Чалавека, зразумела, не перайначыш, ды каб хоць крыху Блатуновай дзелавітасці непрыкаянцу Буранаву, каб меней рэзаў ён з-за пляча, каб хоць калі-нікалі прымаў кампрамісы...

Аповесць «Працістаянне» — і пра гэта таксама. Няхай не прама, а падтэкстава, але падобная думка гучыць. Думка аб тым, што ўсім нам — і Буранавым, і Блатунам — неабходна быць хоць крыху ўважлівейшымі да іншых, дабрэйшымі, шчадрэйшымі...

Гэтым мастакоўскім роздумам напоўнены і апавяданні, якія ўвайшлі ў кнігу — «Ноч без гаспадара», «Шабашка», «Кветка памяці», «Грэшніцы» і іншыя. А. Жалязоўскі, як і ў аповесці, не сказаць каб выбіраў нейкія выйгрышныя сітуацыі з паўсядзённага жыцця. Як правіла, у сюжэтных адносінах ён чытача нічым не здзіўляе. Ды прываблівае ў яго творах іншае: тая маральная падсветка, што дазваляе ў чалавеку ўбачыць лепшае, праз звычайнае, побытавае ўгледзець індывідуальнасць.

Герой апавядання «Ноч без гаспадара» Ігнат, які пасля смерці бацькі вярнуўся быў да маці, жыве месяц-другі ў вёсцы, праводзіць бяссонныя ночы, разважаючы аб пражытым і перажытым. Прыходзіць ён да няўцешнай высновы: «Не стала бацькі, і асірацела хата. Адбіла ўсіх, як трэскі ад берага».

Дзе ты, бераг чаканы? Дзе ты, бераг жаданы? Кожнага з нас... Дзе прыстанішча, каб і добра працавалася, і хораша думалася, і знаходзілася паразуменне з тымі, хто побач з табой і хто не заўсёды пагаджаецца з табой, як у рэшце рэшт і ты сам з імі? Не ведаю, як каго, а мяне гэтыя думкі ўвесь час не пакідалі пры чытанні кнігі А. Жалязоўскага. Не адышлі яны і пасля таго, як перагарнуў апошнюю яе старонку.

Значыць, не марную справу рабіў пісьменнік, выносячы на людзі тое, што хвалюе яго, непакоіць. Значыць, кніга «Чаканне шчасця» з тых, якія патрэбны...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# НЕ ПЛЮЙ, ДРУЖА, У КАЛОДЗЕЖ...

## Адкрыты ліст Сержуку Сокалаву-Воюшу

Ты, Сяргей, маеш такія паэтычныя радкі:

**Мне краёў чужых не трэба —**
**Як ні варажы...**
**Не хачу чужога неба,**
**Радасцяў чужых.**
**Бо чужына сэрца джаліць,**
**Цісне, як змяя,**
**Бо гукае з дальніх даляў**
**Беларусь мая.**

Дэкларацыі — дэкларацыямі, а жыццё — жыццём: ты, Сяргей, цяпер на чужыне. Што ж, пабудзь на свеце, пашырай кругагляд, прапагандуй лепшыя здабыткі беларускай літаратуры, спрыяй іхняму перакладу на іншыя мовы, вяртайся і раскажы нам пра тое, што і як робяць там людзі, прапануй лепшае для перакладу на беларускую мову — адным словам, будзь адмысловым паслом у справе духоўнага збліжэння народаў, літаратур і г. д. Аднак пакуль што ты, Сяргей, спажываеш свой ад'езд і магчымасць выступіць па замежным радыё найперш для таго, каб джаліць нас — тых, хто быў і ёсць тут, на роднай зямлі, церпіць з усімі ўсе нягоды і з усіх сіл намагаецца спрыяць роднай культуры.

У адной са сваіх перадач ты распавёў на ўвесь свет божы пра свае нядаўнія агромністыя пакуты, пра тое, як не давалі тут сцвердзіцца тваёй геніяльнай паэзіі — «Маладосць» і монстр Далідовіч у тым ліку. Маўляў, калі ты ашчасліваў нас першым прыходам у аддзел паэзіі гэтага часопіса, з суседняга пакоя вальяжна зайшоў намеснік рэдактара Далідовіч, ганарліва павёў вачыма на цябе, навічка, і фанабэрліва запытаў: «Ты чытаў мой выдатны раман «Гаспадар-камень»? Ты ж смела і бліскуча астудзіў маю пыху, заявіўшы, што я ўсяго толькі Мележаў пераймальнік, разбіў ушчэнт іншыя аргументы Дамашэвіча і Сіпакова, змусіў мяне ганебна пакінуць пакой, а пасля ты даў мудрае ўказанне Яўгеніі Янішчыц наконт паэзіі і наконт таго, у якім духу ёй выхоўваць сына... Канечне ж, самалюбныя маладосцеўцы выкраслілі з тваёй першай падборкі вершаў самае геніяльнае, і ўвогуле «Маладосць» — не для сур'ёзнай літаратуры... Чуючы ўсё гэта, нейкі чуллівы слухач можа замілавацца: ах, Сяргей, які малайчына! Дарма, што пачатковец ды з правінцыі, даў дык даў сталічным гусакам!

Не лічу патрэбным, Сяргей, распаўсюджвацца пра сябе як пра чалавека і творцу. Але хлусня з хлусні, шаноўны, што я калі-небудзь задаваў табе вышэйзгаданае пытанне. Скажу шчыра, я не помню твайго першага візіту ў «Маладосць», бо проста не прысутнічаў пры ім. Цяпер я распытаў пра тое ў колішніх супрацоўнікаў — так, адказалі яны, ты адразу кінуўся ім у вочы: быў узбуджаны, нервовы, нават нібы п'янаваты альбо звыш меры накураны, паводзіўся безапеляцыйна, сапраўды, нападаў на мой «Гаспадар-камень». З табой спрабавалі паразумецца, падказаць, што трэба ўмець не толькі даваць камусьці пракурорскія прысуды, але і праяўляць тактоўнасць, слухаць іншых, але ты быў нібы запраграмаваны толькі на сваё катэгарычнае. Пазней я чуў, што ты браў удзел у сходках і мітынгах, выходзіў босы перад вялікім гуртам людзей ці перад тэлевізійнай камерай з гітарай, бачыў цябе ва ўсёй рэмбаўскай красе на апошнім пісьменніцкім з'ездзе, але, будзь шчыры, мы з табой ніколі не гаварылі—толькі раз ці два віталіся на хаду, не больш. Але табе захацелася кінуць на мяне цень, дык вось не грэбуеш ніякімі сродкамі, дзейнічаеш па прынцыпе Астапа Бэндара: «Самое главное— это внести смятение в лагерь противника. Враг должен потерять духовное равновесие... Его надо морально разоружить...»

Але дзеля чаго ты робіш, скажам, з мяне ворага? Дзеля далейшага развіцця беларускай культуры? Але чаму ты рашыў, што ты дзеля гэтага робіш больш і лепш за мяне ды што табе ўсё дазволена? Адкуль гэтая пошасць: сябе лічыць месіяй, а іншых — нягоднікамі? Што—гэта наша, беларускае, самаедства? Свядомая кампраметацыя таго, хто штосьці робіць, а ўрэшце і самой справы? Ці ты з помсты адчуваеш сверб абразіць «Маладосць»?

Абразіць «Маладосць» як часопіс са слаўнымі традыцыямі і здабыткамі табе не ўдасца. Яшчэ яе першы рэдактар, Аляксей Кулакоўскі, разам з дружным калектывам і лепшымі аўтарамі зрабіў выключна шмат, каб выданне з паслухмянага камсамольскага органа пераўтварыць у трыбуну жывой думкі і жывога слова, за што ў 1958 годзе быў літаральна лінчаваны.

А хіба лёгка было потым Пімену Панчанку, калі ён з супрацоўнікамі даваў святло «Жураўлінаму крыку», «Трэцяй ракеце», «Альпійскай баладзе», «Мёртвым не баліць» Васіля Быкава, «Між двух агнёў» Уладзіміра Дамашэвіча, «Сасне пры дарозе» Івана Навуменкі, «Дзікаму паляванню караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча, «Маёй Джамалунгме» Аляксея Карпюка? Ці, скажаш, пад ліТаўры ідэалагічных наглядчыкаў Алесь Асіпенка, а пазней Генадзь Бураўкін разам з аднадумцамі друкавалі «Праклятую вышыню», «Абеліск», «Воўчую зграю» Васіля Быкава, «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, «Хатынскую аповесць» Алеся Адамовіча ці «Я — з вогненнай вёскі...»? Думаеш, пасля Васілю Зуёнку, Анатолю Грачанікаву (а заадно і мне як намесніку) нічога не каштавала змагацца за публікацыю «Чорнага замка Альшанскага» і «Зброі» Уладзіміра Караткевіча, «Палявання на апошняга жураўля» Алеся Жука, «Падзямелля» Міколы Аўрамчыка, «Мяча князя Вячкі» Леаніда Дайнекі, «Старажытнай Беларусі» Міколы Ермаловіча, «Споведзі» Ларысы Геніюш? Ці і гэтыя згаданыя творы, на твой погляд, не варты ўвагі? Калі ты так не лічыш, дык чаму тады не зважаеш на тое, што «Маладосць» значна папоўніла залаты фонд нашай літаратуры, дазваляеш паплёўваць на яе? Няўжо не разумееш: гэтым самым ты абражаеш колішніх і сённяшніх сумленных супрацоўнікаў часопіса, якія далі дарогу ў літаратуру не адной сотні маладых аўтараў, паспрыялі дзесяткам з іх стаць сапраўднымі майстрамі мастацкага слова?!

Магчыма, цябе, Сяргей, не так, як ты чакаў, сустрэлі ў маладосцеўскай рэдакцыі, магчыма, тады, у часы застою, прыйшлося Яўгеніі Янішчыц альбо Анатолю Грачанікаву тое-сёе і апусціць у тваіх вершах. Але апамятайся, не нападай за гэта (тым больш за тое, што яна «не так» выхоўвала сына) на Жэню. Дарагі мой, дзякуй Богу, ты не зведаў і долі таго, што выцерпела яна — цяжкую аўтааварыю, калі яе ўрачы ратавалі доўгіх восем месяцаў, і цяжкую сямейную драму. Ды яна трымалася з усіх сіл, у такіх жа, як і для ўсіх нас, умовах стала выдатнай паэтэсай і, скажу без ніякага перабольшвання, прыязна і дбайна памагала маладзейшым. Праўда, магла прынцыпова паставіць на месца нахабніка. Не да твару табе, Сяргей, мужчыне, не па-рыцарску адносіцца да жанчыны, плакаць на ўвесь свет, што цябе не неслі на руках у літаратуру. Нікога з нас ніхто не нёс і не нясе, кожнаму трэба сцвярджацца самаадданай працай і сумленным служэннем справе. Тым больш, што ў апошнія гады, Сяргей, ты мог бы надрукаваць усё сваё ранейнепраходнае. Калі не ў «Маладосці», дык у іншым выданні. Але дзе яно, тое геніяльнае?

Праўда, у «Маладосці» знаходзіцца рукапіс твайго зборніка «Жыві!» Ды ты сам у прадмове зазначаеш, што твае вершы-песні страцілі ўжо сваю актуальнасць, але зборнік трэба выдаць як гісторыю тваёй бардаўскай дзейнасці. Зразумела, бяда для творцы, калі ягоныя творы хутка старэюць; у такім выпадку, можа, лепш не злавацца на свет (а найперш — на сябе), не вышукваць вінаватага, а пачаць працаваць па-новаму, больш дбайна і ўседліва — тым больш, што ты чалавек здольны. Можа, толькі варта не распыляцца, скажам, зноў не траціць зашмат сіл, здароўя і часу на барацьбу за старшынёўскае крэсла ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Такой тваёй, мякка кажучы, заліхвацкай смеласцю на апошнім пісьменніцкім з'ездзе была ўражана не толькі рэдакцыя часопіса «Маладосць», але ўжо і ўся пісьменніцкая арганізацыя: аўтар адной кніжачкі (выбачай, далёка не багдановічаўскага «Вянка»), не паспеў яшчэ атрымаць членскі білет СП, а ўжо замах на літаратурнага генсека! А дагэтуль быў жа заўзятым бунтаром супраць усякага чыноўніцтва! Гэта, браце, нашмат мацней за нейкую там самазакаханую вальяжнасць!

Як старэйшы, нават як старшыня камісіі СП па рабоце з маладымі, веру: ты патрэбен нашай паэзіі, можаш зрабіць для яе штосьці сваё, калі больш засяродзішся не на мітусні, таннай папулярнасці і не на злосці да іншых, а найперш, як казалі, на сур'ёзнай рабоце над кожным словам. І да ўсяго не варта, дружа, пляваць у калодзеж!..

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

# Джордж Браун — студэнт з Полацка

У час, калі адраджаецца сапраўдная цікавасць да гісторыі і культуры Беларусі, мы часта скардзімся, што шмат прадстаўнікоў нашай нацыі працавала на карысць іншых народаў у гэтай галіне, перш за ўсё рускага і польскага. Але ж, будзем шчырымі, і прадстаўнікі іншых народаў зрабілі нямала для нашай культуры. Праўда, часта пра іх мы нічога не ведаем. Адным з такіх зусім невядомых для нас даследчыкаў з'яўляецца англічанін Джордж Браун, лёс і навуковыя працы якога цесна звязаны з Беларуссю.

Джордж Браун нарадзіўся ў сям'і Джона Брауна, англічаніна па нацыянальнасці, прыдворнага лекара жонкі рускага імператара Паўла I (1796—1801) — Марыі Фёдараўны. Яго маці — Марыя Россі, была італьянкай. Нарадзіўся Джордж у даволі незвычайных варунках. Калі яго будучыя бацькі знаходзіліся ў Англіі на адпачынку, адбылося забойства Паўла I, і яны атрымалі з Пецярбурга загад тэрмінова вярнуцца ў сталіцу Расійскай імперыі. Нягледзячы на тое, што ў сям'і чакалі нараджэння дзіцяці, трэба было падпарадкавацца. І вось у час гэтага марскога падарожжа з Англіі ў Пецярбург у чэрвені 1801 года на караблі ў Балтыйскім моры і нарадзіўся ў іх сям'і сын, якога назвалі Джорджам.

Паколькі маці Джорджа была фанатычнай каталічкай, то вучыцца яго аддалі ў Пецярбургскі езуіцкі калегіум, дзе выкладанне і выхаванне вялося на вельмі высокім узроўні. Калі хлопчык падрос, ён паехаў вучыцца ў Полацк, у мясцовы калегіум, які існаваў пры Полацкай езуіцкай акадэміі, адчыненай у 1812 годзе. У 1817 годзе Джордж Браун паступіў на філасофскі факультэт Полацкай Акадэміі і адначасова ўступіў у члены «Грамадства Ісуса». Калі ў 1820 годзе царскі ўрад закрыў Акадэмію і па дамоўленасці з Аўстрыяй выслаў езуітаў на яе тэрыторыю, Джордж Браун (які пасля ўступлення ў ордэн атрымаў імя Юзаф) распачаў у Галіцыі педагагічную дзейнасць. На працягу многіх гадоў працаваў ён выкладчыкам розных дысцыплін у езуіцкіх калегіумах Тарнопаля і Львова, якія ўваходзілі тады ў склад Аўстрыі. Адначасова ўвесь свой вольны час аддаваў вывучэнню гісторыі ордэна езуітаў у Беларусі і Польшчы, матэрыялы для якой расшукваў у архівах Рыма, Вены, Львова і іншых навуковых цэнтрах. Вынікам гэтай шматгадовай працы з'явіўся унікальны манументальны біябібліяграфічны слоўнік «Бібліятэка пісьменнікаў польскай часткі «Грамадства Ісуса». У яго ўвайшлі біяграфіі і бібліяграфія прац усіх членаў ордэна езуітаў у Беларусі, Літве і Польшчы, якія на працягу XVI—XIX стагоддзяў (дакладней, з 1564 па 1852 год) вызначыліся сваімі працамі ў галіне гісторыі, літаратуры, мовазнаўства, філасофіі, педагогікі, тэалогіі, права і г. д. Твор быў напісаны на лацінскай мове і прызначаўся для шматтомнага выдання Аўгустына Бакера (1809—1873) «Бібліятэка пісьменнікаў «Грамадства Ісуса», якое выходзіла ў Льежы (Бельгія) у 1853—1856 гадах.

У 1853—1856 гадах працу Брауна пераклаў на польскую мову былы студэнт філасофскага факультэта Полацкай езуіцкай Акадэміі, таксама член ордэна езуітаў, які разам з Браунам падзяліў лёс выгнання — Уладзіслаў Кейноўскі (1801—1858). У 1861 годзе гэты пераклад быў надрукаваны ў познанскім часопісе «Przegląd poznański» і ў 1862 годзе выйшаў у Познані асобнай кнігай.

Пасля выдання галоўнай працы свайго жыцця Браун працягваў аддаваць свае сілы і час вывучэнню і папулярызацыі беларускай гісторыі. На працягу 1861—1870 гадоў ён супрацоўнічаў з часопісам «Tygodnik Katolicki» (выходзіў у Градзіску каля Познані), у якім друкаваў артыкулы па гісторыі Беларусі. Цікавасць да гэтай праблемы ён захаваў да канца дзён.

Памёр Браун у 1879 годзе ў Львове. Пасля яго смерці засталася ў рукапісе манументальная гісторыя езуітаў у Беларусі на лацінскай мове. У цяперашні час яна захоўваецца ў архіве езуітаў у Рыме.

На вялікі жаль, доўгія гады галоўная праца Брауна, якой карыстаюцца на Захадзе ўжо больш за сто гадоў (апошняе 3-е выданне выйшла ў 1960 годзе), застаецца амаль невядомай у нас.

Ідэалагічныя і веравызначальныя шоры, якія навешвалі і навешваюць на нас з розных бакоў «нашы дабрадзеі» (пра якіх хочацца сказаць трошкі перайначанымі трапнымі словамі Багушэвіча: «Скіньце скурку, дабрадзеі, бо зубкі відаць»), перашкаджалі і перашкаджаюць нам убачыць і па-сапраўднаму ацаніць уклад езуітаў у беларускую культуру. Дзесяткі, сотні прозвішчаў, якія былі ўнесены ў слоўнік Брауна — гэта ўраджэнцы нашай беларускай зямлі. Імі былі створаны арыгінальныя працы ў самых розных галінах чалавечага духу, якія атрымалі высокія ацэнкі ў навуковым свеце. Цікава адзначыць, што супраць кожнага прозвішча ўраджэнца Беларусі, які вызначаўся сваёй дзейнасцю ў галіне навукі, літаратуры ці мастацтва, у слоўніку Брауна стаіць слова — беларус (беларусін).

Нагадаем некалькі прозвішчаў са слоўніка Брауна. Гэта, перш за ўсё, прафесар філасофіі Полацкай езуіцкай Акадэміі Вінцэнцій Бучынскі (1789—1853), заснавальнік першага на тэрыторыі сучаснай Беларусі літаратурна-навуковага часопіса «Полацкі штомесячнік» (1818—1820), на старонках якога ён выдрукаваў шэраг бліскучых артыкулаў па праблемах эстэтыкі і літаратуразнаўства. Пасля выгнання з роднай зямлі на падставе чытаных у Полацкай акадэміі лекцый ён стварыў арыгінальную філасофскую працу «Філасофскія разважанні», якая выйшла ў Вене ў 1842—1844 гадах у трох тамах: першы том уключаў логіку, другі — метафізіку, трэці — этыку. На жаль, пра Бучынскага, гэтага аднаго з самых вялікіх філосафаў, якога калі-небудзь нараджала беларуская зямля і якога сам кароль Бельгіі асабістым указам запрасіў чытаць лекцыі ў Лувенскі універсітэт, мы амаль нічога не ведаем. І толькі таму, што ён — каталіцкі філосаф, езуіт.

Адкрыем наўздагад кнігу Брауна ў другім месцы. Ураджэнец Беларусі Ян Міхановіч, які пражыў усяго 33 гады (1783—1814), у такой ступені авалодаў грэцкай мовай, што рабіў цудоўныя пераклады трагедый Сафокла, Эўрыпіда і іншых класікаў старажытнай грэцкай літаратуры на польскую мову. Яго пераклад трагедыі Эўрыпіда «Арэст» быў надрукаваны на старонках згаданага вышэй літаратурна-навуковага часопіса «Полацкі штомесячнік» у 1818 годзе. Шэраг яго перакладаў, у тым ліку і пераклад «Іліяды» Гамера, застаўся ў рукапісе. У параўнанні з сусветнымі дасягненнямі, можа, гэта і не многа значыць. Але калі мы ўлічым, што цяпер у Беларусі няма ніводнага высокакваліфікаванага перакладчыка са старажытнагрэцкай мовы, тады, як у часы Яна Міхановіча іх у нас былі дзесяткі, можна канстатаваць яўны рэгрэс.

Яшчэ прыклады. Ураджэнец Беларусі Тадэуш Кучынскі (1762—1856) займаўся вельмі нязвыклай справай. Авалодаўшы латышскай мовай, ён пісаў і выдаваў у Полацку кнігі на ёй.

У 1796 годзе выкладчык магілёўскага езуіцкага калегіума Антон Корсак (1764—1831) выдаў у Полацку цудоўны лацінска-польскі слоўнік.

Такіх прыкладаў можна прывесці шмат. Але дзе аб гэтых і іншых старонках нашага духоўнага жыцця XVI—XIX стагоддзяў можна пачытаць у сучасных беларускіх даведніках? Нідзе. Пра гэта мала каму сёння вядома. Амаль таксама невядома і пра навуковую і асветніцкую дзейнасць Іасафата Залескага, Маўрыцыя Палонскага, Станіслава Пятровіча, Юзафа Пяркоўскага і многіх дзесяткаў іншых членаў ордэна езуітаў — ураджэнцаў беларускай зямлі, якія ўнеслі значны ўклад у духоўную культуру Беларусі мінулых стагоддзяў.

І толькі малавядомая пакуль што ў нас праца Брауна дае пра ўсё гэта самую поўную навуковую інфармацыю. У гэтым слоўніку сабрана таксама шмат матэрыялаў пра французаў, немцаў, галандцаў, італьянцаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, якія працавалі на карысць беларускай культуры ў тыя часы. Гэта — Юзаф Анжыаліні, Дэзідэрый Рышардо, Пётр Ланге, Іаан Ротган, Карл Баландрэ і многія іншыя.

Сказанае дае падставу сцвярджаць, што праца Джорджа Брауна з'яўляецца крыніцай першачарговай важкасці для вывучэння беларускай культуры XVI—XIX стагоддзяў, для выявдзення «белых плям» са старонак нашай гісторыі.

Надзвычайна вялікі памер гэтых плям паказала навукова-практычная нарада «Полацкая Акадэмія і праблемы нацыянальнай культуры», якая летась адбылася ў Полацку (6—7 чэрвеня) і была прысвечана 180-годдзю заснавання Полацкай езуіцкай Акадэміі.

Разам з тым, нарада паказала цікавасць нашага грамадства, асабліва моладзі, мясцовых улад і беларускіх навукоўцаў да гісторыі Полацкай Акадэміі, да цвярозага, крытычнага, усебаковага аналізу дзейнасці гэтай своеасаблівай вышэйшай навучальнай установы Беларусі XIX стагоддзя, ордэна езуітаў у Беларусі ў цэлым.

У вывучэнні гэтых праблем слоўнік Джорджа Брауна мае вялікае значэнне. Працу Брауна, якая не страціла сваёй навуковай каштоўнасці да нашых дзён, трэба таксама шырока выкарыстоўваць у нашых даведачных выданнях, перш за ўсё ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».

Навуковая дзейнасць Брауна, на маю думку, сведчыць аб тым, што ў сэрцы гэтага чалавека, якое відаць, належала больш Беларусі, чым Англіі, жыла сапраўдная любоў да зямлі, на якой прайшлі яго юнацкія і студэнцкія гады — лепшыя гады ў жыцці кожнага чалавека. Патрыятычныя пачуцці ляжалі, без сумнення, і ў аснове дзейнасці многіх дзесяткаў калег Джорджа Брауна па Полацкай Акадэміі, ордэне езуітаў. Выкажам жа павагу да памяці і духоўнай спадчыны гэтых працавітых і здольных людзей, якія сеялі на нашай зямлі зерні асветы і розуму.

**В. ШАЛЬКЕВІЧ,**
**дацэнт БДУ.**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## З ЛІЦЕЙНАГА ПРАСПЕКТА— НА СКАРЫНАЎ

**З 4 па 14 лютага ў памяшканні Дома афіцэраў і ў клубе імя Ф. Дзяржынскага адбудуцца гастролі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага драматычнага тэатра на Ліцейным.**

**Шаноўнае спадарства, вы пазнаёміцеся з адным з найстарэйшых пецярбургскіх тэатраў. Трэці сезон яго ўзначальвае вучань Г. Таўстаногава рэжысёр Генадзь Трасцянецкі. Спанатраныя беларускія тэатралы, пэўна, памятаюць ягоны спектакль паводле аповесці Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночае абліччa», ганараваны Дзяржаўнай прэміяй Расіі.**

**Гастролі, што выпалі не на самыя спрыяльныя часы, складаюць чатыры назвы, перадусім — «Скупы» Ж.-Б. Мальера ў сцэнічнай інтэрпрэтацыі Г. Трасцянецкага (дарэчы, прызнаны крытыкай адным з найлепшых спектакляў Пецярбурга апошніх гадоў); «Навéц» паводле аднайменнай аповесці А. К. Талстога ў пастаноўцы В. Глазкова (мастацкі кіраўнік — Г. Трасцянецкі), «Гартэнзія ў Парыжы» паводле старасвецкага вадэвілю Д. Ленскага «Страпчы пад сталом» у пастаноўцы В. Глазкова (мастацкі кіраўнік — Г. Трасцянецкі), а таксама «Пэпі Доўгаяпанчоха» — спектакль-гульня паводле знакамітай аповесці А. Ліндгрэн у пастаноўцы не менш знакамітага М. Лявіціна.**

**Э. Я.**

## «АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ» ВЕЧАРЫНЫ

**З 22 па 25 студзеня «Альтэрнатыўны тэатр» Вітаўтаса Грыгалюнаса і Леаніда Дзінэрштэйна запрасіў завсёднікаў і крытыкаў на маленькі фестываль-агляд «Студзеньскія вечарыны», падчас якіх грамада магла пабачыць тры спектаклі, перадусім «Камедыю...» паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча, чыім саўтарам па драматургіі выпала зрабіцца рэжысёру У. Рудаву (пастаноўка А. Андросіка і У. Рудава). Крытыкам з Пецярбурга, Масквы, Кіева і, адпаведна, беларускай сталіцы былі таксама прапанаваны для абмеркавання спектаклі «Кароль паміpae» Э. Іянеска (рэжысёр В. Грыгалюнас) і «Трохграшовая опера» Б. Брэхта, — прэм'ера апошняга спектакля адбылася перад самым Новым годам.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-25-25; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Юрась ЗАЛОСКА — 33-19-85; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 4.2.93 у 18.10**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА.**

**Індэкс 63856** **П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**Тыраж 15.000** **М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**